


**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”**
**Беласток 2010**

**Карэктура**
Віталь Луба

**Тэхнічны рэдактар**
Адам Паўлоўскі

**Фота**
Ганна Кандрацюк
Міра Лукша
Анна Собэцка




**ISBN 978-83-925904-3-9**

**Друкарня**
„Offset-Print”, ul. Broniewskiego 14, Białystok

# 1

У Жыровічах, у момант развітання са святым месцам, да нас прыляцела задыханая аўчарка. За сабакам валокся пяціметровы ланцуг, такі самы, на якім прышпільваюць у нас кароў на лузе. Мы яшчэ не ведалі, што нашым следам цягнецца не менш бразгучая легенда. Што ў сталічным Менску заслужаныя пісьменнікі і мастакі публікуюць сенсацыйныя ньюсы, між іншым, што з Мірай Лукшай і Ганнай Кандрацюк падарожнічае дух Анатоля Сыса. Наша тройца, дзе б не з'явілася, пакідае пасля сябе прыемны зёлкавы пах і ззянне святла...

У мяне не менш містычнае назіранне ад апошняга падарожжа ў Гарошкаў. Усюды, дзе б мы не з'явіліся, ці то на Гомельшчыне, ці то на Меншчыне, ці то на Гродзеншчыне, — за намі ганяліся ўсе сабакі Беларусі: аўчаркі, дварнякі, доберманы, таксы... Як верыць беларускі народ, у тым ліку я і Міра Лукша, дух памерлых прыходзіць менавіта на Дзяды і менавіта ў вобліку сабакі.



З Беластока ў Гарошкаў, калі ехаць праз Гродна — прыблізна семсот кіламетраў. У Амерыцы такая адлегласць — як у жменю плюнуць. Сеў сабе ў машыну і дуеш куды трэба. Праз пяцьсем гадзін ты на месцы, нават не ўпацееш. Інакш на нашым чароўным Падляшшы. З Беласточчыны на Гомельшчыну мы дабіраліся даўжэй, чым у Амерыку, разам 27 гадзін. Пасля, у роднай вёсцы паэта, мы адчувалі сябе так, быццам і не з'язджалі са сваёй падляшскай глыбінкі. Усё тут выглядала як у нас: пачуццё гумару, сабакі, стаўленне да жывых і памерлых...

Самы незразумелы адрэзак дарогі чакаў нас паміж Беластокам і Гроднам. Каб паспець на цягнік Гродна — Гомель, які адпраўляецца ў 18 гадзін 58 хвілін вечара, мы былі вымушаны перціся ў 5 гадзін раніцы. Іншай магчымасці, як паінфармавалі нас чыгуначныя службы, няма. У Саколцы, пакуль перасесціся ў цягнік на Кузніцу, трэба чакаць больш за гадзіну ў халодных і аблезлых мурах вакзальнага будынка.

— Давай лепш сходзім на цуд, — прапанавала я Міры, — хоць пагрэемся ў цяпле...

Яшчэ ў Беластоку я зірнула на ранішнюю прэсу. На першай старонцы самай папулярнай у Польшчы бульварнай штодзёнкі (тыраж: мільён)

грымеў загаловак: *Цуд у Саколцы? Ашуканства!* У маёй недаспанай галоўцы бліснулі іскры. Гэта быў першы знак. Знак, які прамовіў словамі: дзяўчаткі, калі едзеце ў Беларусь, лепш не сумнявайцеся ў цудзе!



Бо так, як у Беларусі, нідзе на свеце не вераць у цуд. Пра паранармальныя з'явы тут апавядаюць больш рэальна, чым пра факты. У цудоўныя здарэнні вераць шырокія масы і вузкія эліты, у тым ліку міліцыянты і журналісты...

Наша Саколка не горшая за Беларусь. Тут, у палове студзеня, меў здарыцца гучны цуд, якім амаль год кармілася ўся бульварная прэса Польшчы. Карацей, у час святога прычасця з рук святара ўпала аплатка. Згодна з абрадам, яе паднялі з падлогі і паклалі ў келіх са звычайнай вадой, каб там сабе расплылася. І здарыўся цуд... Навуковыя сілы горада Беластока адразу замест аплаткі пабачылі фрагмент чалавечага сэрца, пяць хвілін да смерці. Замест вады — кроў. Доследы ДНК рабіць пабаяліся.

У дарозе „на цуд" нас павітаў гімн „Kiedy ranne wstają zorze". Здавалася, што вакол храма мурам будуць выстойваць абаронцы цуду і паліць скандальныя газеты. Грэх сумнявацца ў цудзе. Нас за тое, што крыху пасумняваліся, адразу

сустрэла заслужаная кара. Цягнік у Кузніцу ад’ехаў перад назначаным часам. Але мы не здаліся, наадварот, як паніскі селі сабе ў таксі і папэрлі ў Кузніцу, здаецца, нават абагналі ўцякаючы цягнік.

— Учора я таксама падвозіў такіх двух, — не хаваў задаволенасці ад нашага няшчасця таксіст, мясцовы татарын. — Яны таксама хадзілі на цуд...

Дзядзька абдзёр нас як ліпку, значыць, узяў у тры разы больш грошай, чым за ўсю дарогу з Беластока ў Гродна.

— Я люблю беларускіх дзяўчат, — загаворваў нам зубы таксіст, — бо ўчора, падвозіўшы студэнта і манашку, я ўзяў з іх дзесяць злотых больш чым з вас, мае мілыя...



*Гарошкаўцы на панадворку Сысаў,*
*за плотам від на старажытнае гарадзішча*



# 2

Дух Анатоля Сыса аб’явіўся ўжо ў Гродне, дзе з раніцы да вечара мы былі вымушаны чакаць начнога цягніка. Каб не таўчыся з манаткамі сярод сышчыкаў, якімі, паводле гродзенцаў, нашпігаваны чыгуначны вакзал з крыштальнымі жырандолямі, мы знялі нумар у прывакзальнай гасцініцы і пайшлі спаць. За пакой, з чыстай пасцеллю, мы заплацілі восем злотых ад асобы. Як за пляшку добрай беларускай гарэлкі.

Едучы ў Гродна, мы не ведалі якім шляхам будзе масціцца наш дзядоўскі маршрут. У Беларусі, як у савецкія часы, трэба мець квіток на канкрэтны цягнік. Інакш, без білета з пазначаным месцам, вас не пусцяць у вагон. Яшчэ да прыезду мы дамовіліся з гродзенскім сябрам-паэтам, каб той, будучы на месцы, набыў нам білеты. Пасля, калі дзень і ноч яму званілі, паэт чамусьці выключаў мабілу.

— Пэўна, зайздросціць, што едзем да Анатоля на магілку?!

— Можа быць! Ёсць чаго зайздросціць! — пагадзілася Міра.

Лёс беларускага літаратара мала зайздросны пры жыцці. Але пасля смерці, як у выпадку Анатоля Сыса, — наадварот. Слава і захапленне, якія сустрэлі дратаванага пры жыцці паэта, пасля смерці пераўзышлі ўсе спадзяванні. Сёння ў яго гонар пяюць дыфірамбы і гімны ўчарашнія варажэнькі і зажэртыя крытыканы. Дай Бог такую славу і нашаму гродзеньскаму сябру-паэту за ягоную нам дапамогу! Інакш нас абмінула б тое шчасце, што пасля сустрэла ў цягніку Гродна—Гомель...

Сапраўды, трэба мець шчасце, каб уначы з 29 на 30 кастрычніка 2009 года папасці ў вагон № 13 і атрымаць месцы № 29 і 30! Скажу праўду, мы тады яшчэ не думалі пра ўсякія знакі, лічбы і прыкметы прыпісаны дзядоўскім абрадам. Пасля недаспанай ночы і нерваў, якія падарыў нам славуты цуд у Саколцы, мы адразу пайшлі спаць. І нават асабліва не здзівіліся, калі ў пэўны момант пазваніў Сяргей Сыс, аднапляменец Анатоля з прыдняпроўскага сяла Заспа. Сяргей раіў адразу ехаць у Гарошкаў і ісці ў дом № 127.

— А там ужо вас будуць сустракаць сёстры Анатоля! — сказаў.

* * *

Гродна, у многім, падобнае на ўсе постсавецкія гарады. У гэтай справе найбольш красамоўна выказаўся прафесар Алег Латышонак з Беластока.

Тэорыя блізнячага падабенства постсвецкіх гарадоў зрадзілася ў яго галаве пасля палёту ў Іркуцк. Калі пасля вяртання мы дамагаліся, каб распавёў пра прыбайкальскі горад, з яго славутай флорай, гісторык адмахнуўся рукой:

— Не трэба ехаць у Іркуцк! — сказаў.

— Як — не трэба?

— Хопіць у Гродна. Там усё як у Іркуцку!

Калі павольным крокам мы з Мірай брылі па вуліцы Ажэшкі, мне таксама здалося, што мы ў Мінску. Што ў доме па вуліцы Чарвякова, на трэцім паверсе адчыніцца акно, з якога Анатоль Сыс выгукне на ўвесь квартал імя маёй сяброўкі. І прыязным жэстам, як тады, у час сустрэчы, пакліча ў свой дом. З паэтам я пазнаёмілася ў найменш прэстыжны перыяд яго жыцця. Як сёння памятаецца тое небанальнае прывітанне. Анатоль, як пасля гаварыў, два дні стаяў у акне і выглядаў, калі прыбудзем, каб на прывітанне выгукнуць на цэлы квартал памятнае: МІРААААА! А пасля, без цырымоніі, пагнаць нас, як багатага дзядзьку са сваёй улюбёнай песні пра дробну драбніцу, у магазін. Вядома, па віно. І знервавацца, калі, замест трох пляшак чарніла, мы прынясем толькі адно заморскае вінцо і пернічкі...

Мы не паспелі адаткнуць тое віно, як у дзвярах паэта з'явілася жанчына-анёл. Суседка з другога паверха, паэтка Ала Канапелька. Спецыяль-

на пад наш прыезд яна спякла блінчыкі. І, як старэйшая сястрыца, лагодным тонам загадала Анатолю: „Хоць нагавіцы апрані, а то яшчэ дзяўчаты засаромяцца!”.

— Я ж ужо аддаў той польскі касцюм, — пажартаваў Анатоль.

Тут мы пачулі пра дары родам з Беласточчыны. Адзін наш зямляк (усе яго ведаюць і мы не будзем тут называць яго імя), паклоннік паэта і бізнесмен, пачуўшы пра безграшовасць паэта, абдараваў яго сваім старым модным касцюмам. Анатоль ацаніў міласэрнасць падляшскага дабрачынца і перадаў франтаватую апранаху бамжу.

Мы смяяліся, хаця зусім не было да смеху. У Анатоля, пасля таго, як дастаў чаравікам ад міліцыянта ў галаў, разбалеліся зубы. Ён прасіў прабачэння, што не мог дабрацца ў Гарошкаў. Бо каб папасці ў яго мінскую кватэру, мы спачатку зведалі Гарошкаў і Ветку на Гомельшчыне. Там пачаткова дамовіліся на сустрэчу і канчаткова пачулі, што іх славуты зямляк чакае нас... у Мінску. Па дарозе мы папалі ў дарожную катастрофу. Паміж Рэчыцай і Гарошкавам пад колы машыны забегла жарабятка. Жывёла і мы ўцалелі, але нас праследаваў той фатальны знак. Праз 9 месяцаў Анатоль вярнуўся ў Гарошкаў у труне, агорнутай у бел-чырвона-белы сцяг.



*У мінскай кватэры Анатоля Сыса, 2004 г.*

*Тусоўка ў бары Дома літаратара; у цэнтры Слава Ахроменка, сааўтар „Зданяў і пачвараў Беларусі”, 1997 г.*



# 3

На Калодзішчанскіх могілках за Мінскам мы наткнуліся на помнік аздоблены з двух бакоў камп'ютарным дызайнам. Спераду красаваўся партрэт маладога нябожчыка з буйной прычоскай у хвалі. На заднім баку па шырокай і простай дарозе сярод векавых соснаў „імчался" сама аўтафура. Здавалася, машына перасякла дазволеную хуткасць...

Просты і тыповы камунікат часоў камп'ютарна-карцінкавай цывілізацыі. І непісьменны здагадаецца, што ў зямным жыцці нябожчык быў шафёрам і праўдападобна загінуў у дарожнай катастрофе. У гэтым міні-аповедзе пра жыццё і смерць чалавека інтрыгавала адна дэталь — рытуальны кілішак з гарэлкай, які налілі сваякі і паставілі разам з гурбай штучнага квецця на намагільнай пліце пакойніку. У голаў адразу лезла дурное, між іншым, што хлапец загінуў з-за гарэлкі...

Каб пакінуць вечнасці камунікат пра жыццё і смерць чалавека, старажытныя беларусы падпіраліся пісаным словам. Абрад „запісу" чалавека

адбываўся якраз на Дзяды. Гэты архаічны звычай прыкмеціў яшчэ ў 1914 г. Вацлаў Ластоўскі ў нашых Кленіках. Да хаты, дзе цягам бягучага года нарадзіўся або памёр чалавек, клікалі грамацея. Той вырэзваў на бэльцы, ля святога кута, імя і год нараджэння дзіцяці. Калі ў сям'і хтось памёр, грамацей высякаў дату зыходу члена сям'і. Такі спісак звычайна ўключаў прадстаўнікоў роду ад пяці да сямі пакаленняў. У маёй роднай хаце (дзесяць кіламетраў ад Кленік) на сцяне, на левым баку ад святога кута, заўсёды вешаюць каляндар „Нівы". На ім таксама значаць хто калі з радні нарадзіўся і памёр. Разам адзначаюць і звесткі пра хатнюю жывёлу, напрыклад, калі ацялілася карова...



Падобны камунікат пра жыццё і смерць аўтара ўяўляюць сабой паліцы ў кніжных магазінах. Калі мы ішлі ў гродзенскую кнігарню, што па вуліцы Элізы Ажэшкі, я не разлічвала, што ўбачу там кніжкі Анатоля Сыса. Творчасць гэтага знакамітага аўтара не можа прабіцца на афіцыйны беларускі кніжны рынак. Праўда, такі цуд час ад часу здараўся. У лютым 1990 года я набыла ў дзяржаўнай кнігарні ў Мінску непрыкметны па афармленні томік „Пан Лес" (выдадзены ў 1989 г.). Па змесце і сэнсе гэты сціплы на выгляд зборнік я лічу найлепшым у гісторыі беларускай літара-

туры. Ён са мною ў балючыя дні народзінаў і паміранняў. На афіцыйным рынку можна было яшчэ набыць выдадзены ў 1988 годзе „Агмень" — першую паэтычную ластаўку маладога паэта, — як два гады пасля бліскучага дэбюту ў часопісе „Маладосць" пісалі пра вершы Анатоля Сыса літаратурныя крытыкі. Два іншыя зборнікі: „Лён" (2007) і „Ałaiza" (2009) падарылі сябры паэта. Сам Анатоль ахвяраваў і падпісаў трэці па ліку том „Сыс". Кніжка пабачыла свет у 2002 годзе дзякуючы, між іншым, прыватнай спонсарцы і гарачай прыхільніцы паэта Валянціне Якімовіч. Пасмяротныя выданні таксама з'явіліся па ініцыятыве і падтрымцы прыхільнікаў і сяброў паэта.

Здаецца, чытачам „Нівы" не трэба асвятляць славутай гродзенскай кнігарні па вуліцы Элізы Ажэшкі. Большасць вядомых мне беларусаў Беласточчыны, раней чым прысядзе ў архівах або ў рэстаранах, спачатку загляне ў гэты магазін. У жэсце можна прыкмеціць рысы рытуалу. Наведвальнік не разлічвае на свежыя прапановы кніжнага рынку. Ён ведае, што на дзвюх, адведзеных для беларускай кніжкі сценках, дарэчы, запхнутых у левы вугал сцяны ад уваходу (часам іх аздабляюць вышыванымі ручнікамі), нішто не памянялася. Як год раней на верхніх паліцах будзе Якуб Колас, на ніжніх — Кузьма Чорны. Але нічога. Наш наведвальнік паклоніцца сценкам, пройдзецца між пры-

лаўкамі з рускамоўнымі альбомамі, ды, не знайшоўшы там нічога цікавага, выйдзе з кнігарні...

Я таксама не разлічвала, што ў Гродне пабачу кніжку Анатоля Сыса. Але тут чакалі мяне неспадзеўкі. На сценках з беларускай літаратурай жанчына з анучкай наводзіла парадак. Яна выцірала пыл з жалезнай класікі і ставіла яе ў іншым, чым год раней, парадку. Калі я наблізілася да славутых паліц, ззаду як нешта грымне! Я азірнулася. На падлозе ляжалі альбомы пра айчынную прыроду на рускай мове. Праз момант я адчувала сябе як слон у пасуднай краме. Але сеанс у кнігарні толькі што пачынаўся. Пасля, калі я спынілася ля прылаўка з праваслаўнай літаратурай, кніжкі зноў зваліліся на падлогу. Тут таксама не было ні адной кніжкі, ні календара на беларускай мове. Кніжкі зляцелі яшчэ раз на падлогу, калі ў эмоцыях я пакідала магазін і нехаця зачапілася локцем аб прылавак. У гэты раз пад мае ногі высыпаліся рускамоўныя брашуры з галіны натуральнай медыцыны і астралогіі.

Не дзіва, што пасля таго ўсяго мне трэба было пашмаравацца эфірным маслам. Гэты цудоўны прэпарат родам з Сэрца Алтая Міра Лукша набыла ў аптэцы, што па-суседску са славутай кнігарняй.

— Я адчуваю, што сёння мы кагосьці сустрэнем! — прамовіла мая сяброўка такім тонам быццам ужо і ведала каго...



*Калодзішчанскія могілкі*

*З паэтам Юры Гуменюком у славутай кнігарні. Гродна, 2002 г.*



# 4

Адна са сталічных легенд, якая валачэцца следам нашага дзядоўскага турнэ, такая: Міра Лукша і Ганна Кандрацюк здзейснілі кулінарны цуд у Гарошкаве. Мы нібыта наварылі там, напяклі і насмажылі яды для сотні народу. Той, хто з'явіўся на святкаванне ў дом паэта, аблізваўся са смакам і хваліў таленавітых кухарак родам з Беласточчыны. Мы не супраць, каб нас хвалілі за талент. Аднак у справе пачастунку ў Гарошкаве варта сказаць другое: Ганусся і Міра з'елі за сотню народу! А той багаты і смакавіты прыём уласнаручна і ад душы нарыхтавалі Тамара і Валя, родныя сёстры Анатоля.

У гэтым месцы патрэбная яшчэ адна далікатная праўка: мы не такія, каб красці чужыя легенды пра кулінарныя цуды. Бо кулінарныя цуды, пра што з рукой на сэрцы скажа стары і малы ў Гарошкаве, і нават у суседняй Заспе, належаць аднаму Анатолю Сысу.



У вагоне № 13 начнога цягніка Гродна — Гомель нас прывітала ветлівая абслуга і незвычайная элегантнасць. Я не верыла сваім нагам, калі па чырвоным персідскім дыванку-ходніку дабіралася ў купэ з месцамі нумар 29 і 30. На вокнах і дзверцах развяваліся пастэльныя фіранкі і занавескі са штучнага шоўку. Міра Лукша, як спецыялістка па ніўскіх гараскопах, таемна ўсміхалася. Ужо тыдзень раней яна ведала, што ўначы з 29 на 30 кастрычніка трапіць у цэнтр увагі, а я, паводле яе гараскопаў, у гэтую ноч буду спаць як пшаніцу прадаўшы. Пасля, калі ў наш салон зайшоў чарнявы хлапец з валізкай, я ведала, што словы гараскопа здзейсняцца на сто працэнтаў.

— А ці чуеце тое, што я чую, — я пазахаплялася ўголас, — ці чуеце як ветліва, па-беларуску адпраўляюць наш цягнік?!

— Ля! Нават пакецік з пасцелькай па-беларуску падпісалі, — прыкмеціла Міра.

Калі б мы не ведалі, што на апошні цуд шмат гадоў працавала Таварыства беларускай мовы, мы падумалі б, што адпраўляюць нас кудысьці ў аблокі...

Ну і той Віктар Казлоўскі, які ад парога выклікаў давер і сімпатыю. Ён не толькі гаварыў

на гаворцы як у Баравых пад Семяноўкай (роднай вёсцы Міры Лукшы), дык яшчэ змахваў на майго траюраднага брата Ваню з Вялікіх Тыневічаў. Пасля кароткага знаёмства аказалася, што наш субяседнік працуе на свінаферме каля Гродна, а сам родам з пушчанскай мясціны Барок ля Ціхаволі.

— То з мае да твае вёскі, — Міра Лукша па простай лініі перасякла ў думках польска-беларускую мяжу, — кіламетраў і дзесяці не будзе...

— Я ж чую, што ў нас адна мова, — Віктар адразу пабачыў у нашых асобах дзяўчат свойскай гадоўлі. І, як добры брат, спачатку распавёў нам пра псіхалогію свінні, а пасля пачаў частаваць. Ён разаслаў на стол шаўковую сурвэтку і, як з таго казачнага рога, стаў дабываць са сваёй валізкі дамашнія каўбасы, сала, печаную курацціну, нарачанскі хлеб, кіслыя агуркі, марынаваныя баравікі з пушчы, грушы, цукеркі...

— І заўсёды свініну купляйце ад гаспадара, — параіў нам Віктар, — і абавязкова, каб у вепрука быў доўгі хвост...

Ад удзячнасці мы хвалілі цэлы жаночы род Казлоўскіх за іх добры смак. Каб падтрымаць настрой свята, Міра Лукша раскрыла свае „Гісторыі з белага свету" і пачала ўголас чытаць бабскую быліцу на семяноўскай гаворцы. А я, згодна з воляй зорак, палезла на вышкі храпці. Пе-

рад гэтым *мой траюрадны брат* паслаў мне накрухмаленую пасцельку, якую беларуская чыгунка сервіруе за два долары…

Наш новы знаёмы ехаў наведаць старэнькую маці, якая дажывае пры сястры ў Гомелі. Каб не той памятны здымак у купэ, мы з Мірай зноў падумалі б пра цуд. Пра тое, што нас угашчаў не аднапляменец з Белавежскай пушчы, а дух Анатоля С. Так ці інакш, наш вагон № 13, які ў Гродне быў перадапошнім, прыехаў у Рэчыцу першым. (*У кніжцы маёй безыменнай, над вершам маім безназоўным, на белай як снег паперы сузор'е ўзышло з трох зорак — трынаццатым знакам „Сэрца" — А. С.*)



Каб заключыць смакавітую тэму, нам абавязкова падагнаць аповед на 13 гадзін уперад, сесці за сямейны стол Сысаў у Гарошкаве і падняць тост за кухарскія здольнасці Анатоля.

— То я раскажу як ён накарміў мяне крупнікам, — голас узяла Алка, суседка з-за плота.

У Гарошкаве, каго б не спытаць пра Анатоля Сыса, усе распавядуць пра яго кулінарны талент. Успомняць, як ля сваёй белай хаткі частаваў з вялікага чыгуна крупнікам або грыбным баршчом.

— У той дзень я чысціла халадзільнік і вы-

кінула рыбу, — пачала свой аповед Алка, — бо яна ўжо засмярдзела. Я ўзяла рыбіну за хвост і з агідай шпурнула яе за плот. Каб каты пачаставаліся. Каля абеду ў хату зайшоў Толя. Ён сказаў, што гатуе крупнік. Алка здзівілася, што не просіць яе на абед. Заўсёды ж запрашаў...

— То я сама ўпрасілася! Сяброўка паэта ведала як Толя смачна кухарыць. Аб'ядзенне, ясі і пальчыкі аблізваеш...

Але пакуль наша расказчыца „з'есць" свой крупнік і ў доказ прызнання хлябцом збярэ апошнія кроплі стравы з міскі, мы крышку рассакрэцім канцэпт легендарнай стравы. Калі Анатоль Сыс браўся за кулінарыю, яго адразу акружалі аднапляменцы, часта сытыя і адкормленыя, быццам для якога фокуса. Кожны з іх стараўся дабавіць нешта ад сябе — хто костку з мясам, хто пятрушку з чужога агарода, хто салёны анекдот. Пасля, калі з чыгунка лунalі прыемныя пахі, да кухарскага станка ля хаткі нумар 127 цягнулі пілігрымкі. Анатоль частаваў усіх: сытых і галодных, багатых і бедных, падвыпіўшых і цвярозых.

— А што ты ў гэты раз такое дабавіў? — дапытвалася ў Анатоля пасля абеду Алка. — Я і сама такі супчык свайму згатавала б.

— Не пытайся, — пачула ў адказ.

— Чаму?

— Не пытайся, бо пашкадуеш.

— Нічога, няхай званітую. Скажы, што ты такое дабавіў!

— Тваю рыбку, якую ты выкінула катам.



*Сталічная багема п'е за здароўе таленавітых кухарак! Гарошкаў, 31.10.2009 г.*

*Міра Лукша і Віктар Казлоўскі ў цягніку Гродна — Гомель*



# 5

Калі Анатоль Сыс першы раз прачытаў свой верш „Мая белая лебедзь”, паэт Эдуард Акулін аж жахнуўся:

— Толя, няўжо ты не ведаеш, што слова *лебедзь* мужчынскага роду? Ён жа павінен быць *мой*, а не *мая* лебедзь.

— А гусь якога роду? — спытаў Сыс.

— Ну, вядома, жаночага..

— Дык чым яны розняцца?

— У прынцыпе нічым...

— То хай і лебедзь будзе жаночага роду.

І сталася так як сказаў паэт з Гарошкава! Сёння, амаль чвэрць стагоддзя ад славутай спрэчкі, мы натуральна ўспрымаем слова *лебедзь* у жаночым ды мужчынскім родах. Ужо для адной гісторыі пра новы род лебедзі варта было дабірацца дваццаць сем гадзін у Гарошкаў.

* * *

Калі сонечнай ранічкай мы з Мірай Лукшай ішлі ў славуты „горад-герой Гарошкаў”, як

жартам гаварыў пра родную вёску Анатоль Сыс, мы яшчэ не ведалі пра гістарычны закалот вакол слоўца *лебедзь*. Але і так гэты дастойны птах явіўся нам як свайго роду паэтычны брэнд Прыдняпроўя. Таму тое, што пабачылі мы ў пачатку вёскі, я ўспрыняла як жарт, як фата-маргану. Сёння чытаю і гляджу ў інтэрнэце фільмы пра святкаванне 31 кастрычніка і здзіўляюся! Ніхто з мастакоў і журналістаў не прыкмеціў дзіўнай будкі.

У Рэчыцу мы прыехалі сытыя, жывыя, адкрытыя на цуд. Нас не здзівіла, што наш вагон № 13, які з Гродна выязджаў перадапошнім, прыехаў першым. У Гарошкаў мы дабраліся на рэйсавым аўтобусе Рэчыца — Гомель. Не ведалі, што ў вёску ходзяць асобныя маршруткі, на якіх можна пад'ехаць пад самую хатку Сысаў. Пасля, калі сваякі Анатоля спытаюць як мы дабіраліся, будуць смяяцца з нас:

— Ніхто той дарогай у нас не ездзіць!

Ад прыпынку „Гарошкаў" мы тэпалі яшчэ тры-чатыры кіламетры. Але наш выбар быў узнагароджаны!

— Міра, ці ты бачыш тое, што я бачу?

Мая сяброўка на ўсякі выпадак працерла вочы. Я таксама працерла вочы і ад захаплення закашляла. Як зачараваныя мы збочылі з асфальтавай дарогі ды пацягнулі ў бок цуду, у поле. Да блакітна-ружова-зялёнай будкі-прыпынку, якая са-

мотна тырчэла сярод сухога лабадзіння. Нашу ўвагу прыкавала народнае насценнае мастацтва. Ад фронту і ад заду блакітна-ружова-зялёны прыпынак здобілі белыя лебедзі. Птахі плавалі сабе ў блакітнай вадзе, якая здалёк здавалася небам. На мой густ, у лебядзіцаў былі недастаткова доўгія шыі. Яшчэ большую падазронасць наклікалі іх чырвоныя сексоўныя дзюбкі.

— Гэта лебедзь ці гусь? — спытала я.

— Можа быць гусь, — Міра яшчэ раз працерла вочы.

Падобныя сумненні наклікалі і зялёна-блакітна-белыя горы, якія строміліся на сцяне ў сярэдзіне прыпынку. Здалёк напаміналі яны легендарнае Сэрца Алтая, зблізку — наваколле Салігорска.

Так ці інакш у канцэпце гарошкаўскага прыпынкавага мастацтва мы пабачылі фрэску на тэму літаратурна-музычнага шэдэўра „Мая белая лебедзь”. І перасцярогу, каб зблізку не глядзець на ўсе цудоўныя з’явы, якія сустрэнем у міфалагізаваным паэтам Гарошкаве. Га! Каб усім было смешна, будка раней стаяла непадалёк белай хаткі Анатоля С.

— Нядаўна, чорт ведае дзеля каго, наш прыпынак вывезлі ў поле, — сказалі нам сваякі Анатоля.

Мы ведалі каму прыслужыліся гарошкаўскія чэрці, але не прызналіся.



Перад паездкай у Гарошкаў мне здавалася быццам нідзе ўжо на свеце па-за маёй курганна-балотнай Кутлоўкай, што ля ракі Нарвы, пра недарэчныя штучныя сувязі, скажуць: *ён табе як прычапі кабыле хвост* (у арыгінале: *вун тобіэ як прычэпі кобыліэ хвуст*). Цяжка ўявіць маю радасць, калі за сталом у прыдняпроўска-курганным Гарошкаве, семсот кіламетраў ад мае хаты, Валя, родная сястра Анатоля, пра падобныя сувязі сказала: *ён табе як прывяжы кабыле хвост!* Апошняя заўвага не датычыла нас з Мірай. Нас, як гасцей з Польшчы, сваякі паэта прынялі лепш чым родных. Ды нават прапісалі на пяць дзён у роднай хаце Анатоля. Праўда, мы трымаліся народнай яўрэйскай мудрасці, якая кажа, што рыба і госць пасля трох дзён пачынаюць смярдзець...



*Надта хочацца ў вырай,*
*Мая белая лебедзь,*
*А ці хочаце Вы ў рай?*
*Мне хацелася б ведаць,*
*мне хацелася б ведаць,*
*мне хацелася б верыць,*
*што Вы хочаце ў вырай,*
*мая мілая лебедзь.*

*Хутка восеньскі вецер*
*прынясе павуціну,*
*сумны восеньскі вечар,*
*прыйдзе ў Вашу хаціну,*
*а пад раніцу шэрань —*
*і не ўбачыць прасвету,*
*у нябёсах у шэрых*
*я растану без следу.*
*Надта хочацца ў вырай*
*мая сумная лебедзь,*
*ляцім! З мірам, як з лірай,*
*чарада нас прывеціць,*
*чарада нас прывеціць,*
*чарада нас прыкмеціць,*
*мая белая лебедзь,*
*мая мілая лебедзь.*

PS. Верш Анатоля Сыса, у выкананні Касі Камоцкай, якая сама напісала для тэксту музыку, увайшоў у гісторыю беларускай рок-музыкі.

# 6

Калі шэсць гадоў таму мы з сяброўкамі ўпершыню дабіраліся ў прыдняпроўскую вёску Анатоля Сыса, на дагледжаных беларускіх дарогах праследавалі нас наравістыя коні. У цэнтры Століна, ля помніка з русалкай, конь сам выпрагся з воза і ашалелы ўскочыў на прыступкі сталовай. Цуд, што тады абышлося без крыві. Нібыта дапамагла малітва, якую ў пару змовілі дзяўчаты, стоячы на фатальных прыступках. Год пазней з-за кабылы з жарабём мы папалі ў дарожную катастрофу і цудам пазбеглі ран.

Эратычна-сексуальны код у паэзіі Анатоля Сыса часта пазначаны выявай каня і атмасферай гвалту (*А ў тваім, Люцыян, Днявры, што жывіў спакон веку гоні, тры русалкі, славянкі тры янычаравых мыюць коней — А. С.*). У гэтым месцы хочацца напісаць як паэт: *бо Конь — гэта больш чым конь*. Матыў каня, як пасля асвецяць нас землякі Анатоля, жыўцом спісаны з купальскіх абрадаў, якія па сёння праўляюць у Гарошкаве. Анатоль Сыс, як кожны мясцовы хлопец, не ўяўляў

свята кахання без Дняпра і мясцовых *русалак.*

І, канешне, без каня, дадаў бы ў гэтым месцы паэт!



Каля хаты нумар 143, калі мы ішлі ў дом-музей паэта, нас *штосьць* спыніла. На хатцы, што насупраць названага нумара, мы прыкмецілі антэну, зробленую з кола ад ровара. У галаве бліснулі думкі пра канспірацыю. Анатоль Сыс у адным са сваіх інтэрв'ю пра аднавяскоўцаў сказаў: *— Яны такія самыя нацыяналісты як я!*

— Цікава, ці тут *Белсат* ловяць? — падумалі мы ўголас.

Нацыянальную свядомасць гарошкаўцаў мы высветлілі ўжо на пачатку знаёмства. Калі мясцовыя хлопцы пачулі, што мы з Польшчы, яны, як усе ахвяры савецкай адукацыі, давай называць нас *палячкамі.*

— Мы такія палячкі, як вы расіяне, — патлумачылі мы.

І хапіла! Пасля гэтай далікатнай праўкі нас пачалі ўспрымаць як партнёрак. Дакладней, як файных жанчынак. Такім, як мы з Мірай, многа не трэба. Мы нават малацікавы камплімент раздзьмухаем да належных нам мерак. Як небанальнае прывітанне, якім пачаставаў нас Вася Бельскі, траюрадны брат Анатоля:

— А колькі ты мужыкоў мела? — спытаў на *добры дзень* Міру Лукшу.

Сваяк паэта з ходу належным чынам ацаніў жаночы патэнцыял і тэмперамент маёй сяброўкі. І, не чакаючы яе адказу, сам сабе адказаў: — *Трох?!*

У мой бок Вася выказаў этнічна-купальскае захапленне: — *Во, якая русалка!*

Гэты неадназначны камплімент доўга не даваў мне спакою. У маёй падляшскай вёсцы русалкай завуць жанчын з распушчанымі валасамі, нават калі яны стогадовыя бабусі. Іх будуць западозрываць у кантактах з таемнымі сіламі, карацей, пабачаць у іх ведзьмаў.



Анатоль Сыс, калі прыязджаў з Мінска ў Гарошкаў, замест пад'ехаць як чалавек пад дом, ён прасіў шафёра спыніцца шэсьцьсот метраў далей.

Больш-менш у тым месцы дзе і нас з Мірай спыніла!

Паэт, перш чым да сябе, заходзіў у дом нумар 143. Да сваякоў: Люды і Васіля Бельскіх. Павітаўшыся, ён адразу ляцеў у купальны пакой. Прымаў душ, брыўся, чысціў пазногці. Пасля апранаў чыстую кашулю, ваксаваў туфлі. Каб паказацца маці свежым і задбаным.

— Ён вельмі дбаў пра гігіену, — Людміла,

як працаўнік санаторыі, ведае пра што гаворыць. — Модна насіўся, асабліва як яшчэ маладым быў.

Але жыццё не любіла яго прыхарошаным. Ды і сам свежапабрыты Анатоль не спяшаўся да роднае хаткі. Яшчэ добрую палову дня ён гасцяваў у Бельскіх. Яго там кармілі і паілі, апавядалі хто нарадзіўся, хто памёр у Гарошкаве...

— Не заўважыш як час з ім зляціць, — Людка з вялікай сімпатыяй успамінае свайго траюраднага швагра, — бо з ім усім было так цікава, так лёгка. Душа чалавек быў. Апошнім падзеліцца.

— Гэта вы рыхтавалі яму чыстую кашулю на змену? — спытала я ў дзелавітай сваячкі паэта.

— А дзе там! Анатоль прывозіў з сабой з Мінска адзенне на змену. І, ведаеце, пакуль дойдзе да сваёй хаты, пераздае яго людзям. Хопіць, як каго сустрэне на вуліцы і той яму скажа: — *Якая ў цябе класная майка.* Толік здыме з сябе тую майку і падорыць сябру. Бывала, у адных шортах да роднай хаты прыходзіў...

*(А вось і Айчына. А каля яе рыпучых весніцаў стуленыя бацька з маці, як тыя два птахі пад кастрычніцкімі зябамі. — Матуля, нёс я табе на шыі нізку абаранкаў — не данёс. Бацька, нёс я табе цераз плячо катанкі — не данёс. Колькі было веставых крыжоў на шляху, столькі сустрэў пакутнікаў. А вы ж самыя ўсё жыццё мяне вучылі: не абміні гаротніка. — А. С.)*



*Людка Бельская (на печы ў доме паэта)*

*Вася Бельскі*



# 7

Дзеля папаўнення кнігі цудаў нашага дзядоўскага турнэ мусова забегчы паўтара месяца наперад і трапіць на літаратурны семінар „Бязмежжа-2009”, які традыцыйна ўжо праходзіў у пансіянаце „Бора-Здруй” у нетрах Белавежскай пушчы. Калі над галовамі беларускіх пісьменнікаў пачалі кружыць два матылі, у адным з іх Міра Лукша распазнала дух Анатоля Сыса. Здаецца, ніхто з літаратараў не сумняваўся ў яе адкрыцці. Паўлінавае вока, бо ў такім выглядзе з'явіўся паэт, ад пачатку патрабавала выключнай увагі. Яно пёрлася ў лямпы жырандоляў, каб пакутна згараць на вачах беларускіх празаікаў, паэтаў і журналістаў.



Калі мы з Валянцінай, сястрой паэта, чакалі прыезду маршруткі, на якой дабярэмся на могілкі, мяне апанталі думкі пра агонь і пажары. Прывід стыхіі наклікала абгарэлая хатка па другім баку вуліцы. Хоць — не! Сігнал даходзіў з-за

пашкоджанага плота, ад лысых узгоркаў, якія самі сабой напаміналі спелыя грудзі славянкі. Свядомасць, што спазіраем на старажытнае гарадзішча мілаградска-зарубінецкай культуры, дзе ад калыскі натхняўся будучы паэт, апякала як агонь. І Валянціна, быццам у адказ думкам, пачала ўспамінаць пажар пяцідзесяцігадовай даўнасці. Запамятала яго з той самай адлегласці як сёння, седзячы на лавачцы перад іх новай хатай, у свае дзіцячыя гады.

— А я ўсё думала што тады загарэўся ваш дом?

— У нас ніколі не было пажару, — сястра паэта аж жахнулася ад маёй заўвагі. І абачліва дадала: — Дай Бог, каб ніколі яго тут не было!

Апошнія словы зноў павярнулі мяне на наш магічна-падляшскі панадворак. У нас таксама слова пажар вымаўляюць са страхам, ды перажагнаюцца набожна. Каб не наклікаць бяды.

Падобнае ўражанне пакінуў твор Анатоля Сыса „Неапаленая Купіна", які напісала жыццёбыццё ў Гарошкаве. Стыхія мела ўспыхнуць у дзень нараджэння паэта. Ён, народжаны ў агні, хацеў ці не, ад калыскі быў пазначаны. Анатолевы лёс аднапляменцы спалучалі з нейкай нябеснай місіяй. Найахвотней бачылі яго ў аблоках, лётчыкам. Як дзядзьку Антона, роднага брата бацькі, па якім будучы паэт атрымаў імя.

— То чаму ахрысцілі яго Анатолем, а не Антонам? — спыталі мы Валянціну.

— Бо гэтыя імёны падобныя на сябе, — без упэўненасці паясніла нам сястра паэта...

У апошняй звестцы мы знюхалі метафізічны выкрутас. Дзядзька Антон загінуў у катастрофе самалёта на вайне, значыць, у агні. Але замест высвятляць магічныя хітрыкі з імёнамі, мы падумалі пра Янку Купалу, які таксама натхняўся на старажытных пластах у Акопах.



Пажар успых на змярканні напрыканцы кастрычніка 1959 года. Дзве хаты далей у бок Заспы, ад той пазначанай пажарам хаты, што насупраць. Марыя і Ціхан Сысы перайшлі жыць у новую мураванку, якую збудавалі на новым месцы. Раней іх загуменне выходзіла ў падножжа старажытнага гарадзішча. У сям'і былі дзеткі: Тамара, Валянціна і Віктар. Бацька вярнуўся з работы і адпачываў на *дзіване.*

— Мы, дзеці, сядзелі на лавачцы, — успамінае Валянціна, тады сямігадовая дзяўчынка, — а мама пайшла да суседкі. Ёй трэба было нешта спытаць. Зайшла, а яны вячэраюць. І цёмна. Лямпа гарыць, дый патухае. А тая суседка гаворыць: пайду, нафту залью. Прынесла ў хату каністру і кліча старэйшага хлопца: — *Ідзі, Валодзя, падзяржы!*

Тое, што здарылася тады ў Гарошкаве, ад пачатку да канца напамінала адвечны сюжэт. Мы з належным прызнаннем паглядзелі на драўляную хатку, у якой пачаў матэрыялізавацца наканаваны сцэнарый. Будыніна ўражвала сваёй сціпласцю і мізэрнасцю:

— Сям'я ў іх была вялікая, чалавек, *наверна*, восем, — цягнула Валянціна. — І такое немаўлятка яшчэ ў калысачцы ляжала. То наша мама кажа: — *Нашто Валодзю рукі смуродзіць. Давай, я патрымаю лямпу.* Яна ўзяла тую лямпу і дзяржыць. А суседка залівае. І як бухне! Тая каністра разарвалася. Бо ўсярэдзіне бензін быў. Ды ўсе, як стаялі, загарэліся.

Па сёння Валянціна „бачыць" тых палаючых людзей, які выбеглі з пажару на вуліцу. І той бязрадасны настрой, бессэнсоўную мітусню, якой паддаюцца старыя і малыя ў абліччы стыхіі. Запамятала суседку, якая замест ратавацца, выносіла яшчэ з хаты пасцель, адзенне, пасуду...

— А наша мама ўхапіла тое немаўля, што ляжала ў калысцы, закрыла твар і выбегла на вуліцу. Мы тут сядзім і ўсё бачым. Што гэта такое дзеецца? Гаращчыя людзі бегаюць. Я пабегла па татку. Бацька сарваўся з ложка, выбег на вуліцу і накрыў фуфайкай маці. Так уратаваў яе. І шчасце, што машына стаяла каля дома, бо ён шафёрам работаў.

Ціхан Сыс загрузіў абгарэлых у машыну,

дрыжачымі рукамі завёў рухавік і павёз у бальніцу. Дарога, здавалася, падоўжылася ў сто разоў.

— Дзетак і маму давёз, а тая суседка так і не даехала, — апошняя сцэна, хоць і пяцідзесяцігадовай даўнасці, яшчэ сёння выклікае боль.

Тады, у дарозе з Гарошкава ў Рэчыцу, пачаліся роды.

— Лекары доўга не маглі нічога зрабіць, — успамінае сястра паэта, — але ж ён нарадзіўся!



*Калі я быў малы, дык часта думаў, чаму маці ў мяне такая старая і непрыгожая, а аднойчы адважыўся запытацца пра яе шнары на твары, якія глыбока ў душы любіў, якія тысячы разоў цалаваў.*

*— Ох, сынок мой! Гэта ж здарыўся пажар, і я яшчэ з адной жанчынай абгарэлі крэпка. Жанчына тая памерла. І ў мяне былі апаленыя і рукі, і грудзі, і твар... І была я цяжарная табою. Сынок мой, і ўсе казалі, гэта я даведалася потым, што ці я памру, ці дзіця народзіцца мёртвым. Аж нарадзіла я цябе, сынок мой, жывенькага, толькі на твары была чырвоная плямінка. Я думала, след ад пажару, аж акляматўся ты трохі, і яна знікла, сынок мой. А была я прыгожая да пажару. Ды хіба ў непрыгожай маці мог нарадзіцца такі сынок мой?...*

*Як святарны абраз,*
*людзі вынеслі маці з пажару,*
*бы вужаку, маланку аддзёрлі*
*ад белых грудзей,*
*каб суцішыць пакуты —*
*паклалі пад цёмную хмару*
*і, каб смагу спатоліць*
*размову вялі аб вадзе,*
*а яшчэ гаварылі: Пярун выбірае шчаслівых.*
*Маці верыла людзям, на шчасце,*
*цяжарная мной,*
*і шаптала замову: калюжыны*
*— гадам вашывым,*
*полю жытняму — дожджык,*
*а рэчка крывінцы маёй...*
*Бы вужака, маланка смактала*
*ў полымя грудзі*
*і плявала адрыжкі на самых*
*прыгожых жанчын,*
*Неапаленай Купіне — маці маліліся людзі,*
*і пачуў я ва ўлоні: з пакуты народзіцца*
*Сын...*
*Неапаленай Купіне — маці малюся адзінай,*
*я ўсмактаў з малаком і любоў, і праклёны яе:*
*хто плюе на жанчыну —*
*той нелюдзь плюе на Радзіму,*
*хто гандлюе святынай — той маці сваю прадае.*
*(А. С. — „Неапаленая Купіна”)*



*Валя Алейнікава з партрэтамі бацькоў Марыі і Ціхана Сысаў*

*Гарошкаўскі партызан — улюбёнае месца мужчынскіх бясед*



# 8

— Я і сам напісаў, што Анатоль не памёр, што ён прытварыўся. Нават калі стаіш пры яго помніку на могілках у Гарошкаве, не верыцца, што ён там, у зямлі, — разважае Сяргей Сыс. Заўвага паэта-аднафамільца, родам з суседняй Засны, аж просіцца ў нашу дзядоўскую хроніку цудаў. Сяргей — першы ў свеце, хто не павінен сумнявацца. Пяць хвілін да таго як закапаць цела Анатоля Сыса ў зямлю менавіта яму загадаюць прыадчыніць накрыўку дамавіны, каб праверыць.



Адразу пасля прыезду ў Гарошкаў, разам з сястрой Валянцінай мы адправіліся на вясковы могільнік, каб навесці парадкі на магілах сям'і Сысаў. Згодна сучаснай модзе і выгодзе на могілкі заехалі мы на рэйсавай маршрутцы. Здаецца, ніхто асабліва не разлічваў на нашу дапамогу. Нас нават не пераадзелі ў квяцісты халат, як усіх іншых памагатых, у тым ліку дзядзькоў. Пазбаўлены дзелавога касцюма, мы выглядалі як гарадскія

камбінатаркі. Нас, здавалася, выправілі спецыяльна з хаты, каб там не мяшалі ў падрыхтоўцы да свята, якая ад рання да вечара ішла поўным ходам у хаце і на панадворку.

— А чаму Анатоль пахаваны ў Гарошкаве? — спытала я.

— Як чаму? — здзівілася Валянціна.

Мне стала сорамна з-за самага дурнога і недарэчнага пытання, якое можна паставіць у Гарошкаве. Сам Анатоль пахаваў сябе тут у сваім творы, яшчэ далёка да сваёй фізічнай смерці:

*Пад бярозаю косці,*
*а ў кроне гняздо птушка мосціць,*
*тут вячыста — надзіва — здаецца:*
*я сам тут ляжу —*
*на вясковым пагосце (...)*

Каб падняць настрой, я пачала думаць пра дзядоўскі падарак пакойніку. Ніхто з абачлівых падляшукоў, у тым ліку і мы з Мірай, не выправіцца з пустымі рукамі на сустрэчу з памерлымі. У Гродне мы купілі настойку „Чорны рыцар", аднак мы не ведалі як такі падарак успрыме сям'я, і абачліва пакінулі напой у хаце-музеі. Добра, што пад рукой былі ў нас духовыя падарункі. На спатканне з духам паэта я спецыяльна развучыла старажытную падляшскую песню са Збуча, які, як Гарошкаў, славіцца гарадзішчам мілаградска-зарубінецкай культуры: *Зышло соньцэ за оконьцэ...*

Мы ведалі, што Анатоль Сыс часта прыходзіў з сябрамі на могілкі, каб паспяваць для нябожчыкаў сумныя і вясёлыя песні. Нам хацелася яшчэ старым дзядоўскім звычаем, запісаным Вацлавам Ластоўскім, запаліць вогнішча ля магілы паэта.



Пра пахаванне Анатоля Сыса па сёння ў сталічным Мінску апавядаюць легенды. Першае месца належыць тут Адаму Глёбусу, які памясціў пасмяротныя гарачыя занатоўкі на сваім блогу. Аднафамілец Сяргей Сыс не горшы ад названага літаратара, хоць апошні ў адрозненні ад першага мае чым пахваліцца. У паэта новая жонка і дачушка...

У палове мая 2005 года, калі вынесуць цела Анатоля Сыса з яго хаты на гарошкаўскія могілкі, сарвецца вецер.

— Я прысеў на машыну побач яго труны, — успамінае Сяргей, — пільнаваў, каб вецер не сарваў бел-чырвона-белы сцяг, якім накрылі труну.

Адразу, пасля смерці, Анатоль Сыс яшчэ не карыстаўся такой папулярнасцю як сёння. У апошні шлях праводзілі толькі родныя, суседзі і жменька сяброў з Мінска і Гомеля. Больш за людзей пастаралася матка-прырода. Прыаздобленыя майскай зелянню бярозы схіляліся на цёп-

лым ветры, быццам кланяліся новапрадстаўленаму пакойніку. Містэрыю развітання папаўняў вясновы шчэбет жаўранкаў, ад якога вібравала паветра. Ніхто не прадбачыў, што лагодна-журботны настрой парушыць лямант. Жэст, дарэчы, упісаўся ў традыцыю надмагільных галашэнняў. У момант, калі намерыліся апускасць дамавіну ў дол, пачуўся жаночы плач:

— Яго там няма ўсярэдзіне! — загаласіла сястра.

І, насуперак грамадзе, заўпарцілася, каб адкрыць труну.

Публіка ўскалыхнулася, людзі крычалі, адмаўлялі. Цела даставілі ў Гарошкаў 10 траўня ў шчыльна завінчанай труне. Ды сама Валянціна не магла сумнявацца ў смерці Анатоля. Труп брата яна пабачыла ў яго мінскай кватэры, два дні пасля ягонай смерці (4 мая 2005 г.). Раней яна была вымушана прыехаць з Брэста, каб у яе прысутнасці міліцыя зламала дзверы ў кватэру. Анатоль ляжаў мёртвы і ўжо пачарнелы ў калюжы крыві…

Сам Сяргей не ведае чаму паддаўся настрою. І ці не вінаватая тут кроў? Калі прыгледзецца яго генеалагічнаму дрэву, пакойнік прыходзіўся яму дзядзькам у пятым пакаленні. Сяргей рад не рад стаў тады адкручваць залатыя вінты, корпацца пры засаўках, аж упацеў. Каб пасля ўміг ахалонуць ад убачанага з-за прыпаднятай накрыўкі.

— Цела ўжо пачарнела і абрасло белай шчацінай. Гэта быў страшны від. Ну, але я пазнаў яго. І сёстры пазналі. Гэта быў Анатоль, у белай кашулі з нацыянальным арнаментам.

Неўзабаве лёс узнагародзіць адважны ўчынак Сяргея. Апошняя інфармацыя не менш важная для нашай дзядоўскай хронікі цудаў. Сорак дзён пасля смерці, на памінках, якія зладзяць сёстры ў святліцы ў Заспе, Сяргей сустрэне сваю будучую жонку, паэтку Галіну Дубянецкую.



*Галіна і Сяргей Сысы на літаратурным семінары „Бязмежжа-2009”*

*Уладзімір Някляеў, Эдуард Акулін і Барыс Пятровіч Сачанка. Гарошкаў, 31.10.2009 г.*





Анатоль Сыс у сваёй экзальтаванасці не меў сабе роўных, асабліва, калі гутрака ішла пра першынство ў паэзіі. Паэт з Гарошкава, як вядома, сам сябе лічыў духовым сынам Янкі Купалы і братам Максіма Багдановіча. У рэальным свеце ён таксама не хацеў бачыць абы-якой канкурэнцыі. Па сёння ў Мінску паўтараюць яго бесцырымонны тэкст пра ўзровень сучаснай паэзіі. Замест кідацца ў модны і выгодны рэлятывізм, ад якога смярдзіць на салонах, Анатоль, як праўдзівы мужык з Гарошкава, даў канкурэнцыі жару:

— *Пакажыце роўнага мне паэта, то сам яму ногі памыю. А калі пакажаце лепшага за мяне, то не толькі яму ногі памыю, яшчэ і ваду тую вып'ю!*

Біблейскі выклік, нягледзячы на высокі адсотак прэтэндэнтаў на першынство, так і астаўся без адгалоску. У сапраўднасці Анатоль Сыс, пра што ведалі яго варажэнькі, не быў з хваравітых зайздроснікаў. Ён, як ніхто з яму сучасных, намаўляў і заклікаў пісаць па-беларуску знеахвоча-

ных калег па пяру. Пісаць вершы ён прапанаваў чыстым аматарам, нават калі тыя ні ў зуб не ведалі беларускай мовы або займаліся літаратурнай крытыкай. І асабліва штурхаў маладых:

— *Я бачу ў табе паэтычныя здольнасці*, — паўтараў ён ашаломленым прапановай навічкам, — *ты будзеш пісаць па-беларуску, я гэта бачу...*

Можна сказаць, што сам множыў сабе канкурэнцыю і вітаў яе са спадзяваннем. Бо як сапраўдны рамантык, ён верыў у адраджэнне беларускага духу з дапамогай паэта-прарока. Ён павіннен з'явіцца пасля яго смерці, у лепшы для літаратуры час. За гэта Анатоль Сыс, у што не сумняваецца ад пачатку да канца чытач, гатовы не толькі памыць ногі, але і пайсці ў агонь.



Калі разам з Мірай і Валянцінай мы перасеклі браму *раю*, як гаварыў пра свае вясковыя могілкі Анатоль Сыс, я не верыла, што выпадзе мне гонар прыбіраць магілку паэта. Ды і не хацелася гэтага, бо сама прырода ўжо навяла тут парадкі. Уся плошча *кладзьбішча* напаміналі залаты луг з блакітнымі крыжамі. Тыя белыя і светлыя бярозы, якія так часта сустракаем між паэтычных радкоў Анатоля, якраз атрэслі сваё жоўтае лісце. Здавалася, ад іх пацяплела зямля. Бла-

кітныя крыжы, усе павязаныя белымі ручнічкамі-стужкамі, падобныя на сябе як сваякі-аднапляменцы, здаваліся непрыкметнымі ў цэласці. Толькі помнік паэта рэзка вылучаўся сярод жалезна-блакітнага лесу. У пачатковай задуме помнік меў напамінаць каменную стэлу. Пасля мастак Генадзь Лойка вычасаў у камені галаву, даў стэле форму крыжа і прыаздобіў яе цярністым гняздзечкам з салаўём. Каб стала так — як напісаў паэт. Мы таксама як Анатоль Сыс здзівіліся лагоднасцю і цішынёй месца. У такіх месцах не сорам заплакаць. Яшчэ я прайшлася між магіл, каб спыніцца на канцы ўзгорка, на якім спачываюць пакойнікі. Унізе, сярод шырокай на дзесяць кіламетраў даліны, віднеў Дняпро. Блізкасць ракі і пагоста зноў заставіла думаць пра старажытныя міфы. Там, *у вірах барвовых,* здавалася, знайшла прытулак збалелая душа паэта.



У вершы „Рай", якому без сумненняў назначу першынство сярод дзядоўскіх твораў у беларускай літаратуры, скрыжаваліся радасць і смутак беларускага лёсу, праўда пра магчымыя і немагчымыя далягляды нашых памкненняў і тая лагічная перспектыва шчасця, якая вядзе проста ў рай, значць у магілу. „Рай" Анатоля са мной, калі перасякаю браму любой некраполіі свету.

Таму на месцы, якое можна лічыць жывым літаратурным полем, мы былі гатовы ўспрыняць кожны, нават малаістотны, выпдак ці здарэнне як алегорыю. Як з'яўленне сабакі, які прыпёрся дзесьці з палёў і пасля знік быццам выйшаў са спарахнелых душ пакойнікаў. Маладая аўчарка паказалася нам яшчэ ў Жыровічах і ў Зэльве.

Дух Анатоля Сыса аб'явіўся яшчэ ў надта экзальтаваны манер. Спачатку мы не пракаментавалі таго, што здарылася.

— Ён, відаць, пакрыўдзіўся на нас, — сказала паўшэпатам Валянціна, калі мы пяшком вярталіся з могільніка. Мы з Мірай падтакнулі. Усіх нас напалохаў кілішак велічынёю ў шклянку, які сямейка паставіла на магіле паэта. Калі мы ўжо збіраліся адыходзіць і ў думках гаварылі развітальныя словы, пацір сам па сабе перавярнуўся. Пасудзіна грымнулася аб каменную пліту і, здавалася, разаб'ецца. Калі яе паставілі на ножку, чара яшчэ раз перавярнулася...

Рытуальны недахоп выправіць паэт Эдуард Акулін. На другі дзень, калі ля магілы паэта збярэцца цвет беларускай літаратуры (і не толькі), Эдуард дастане з-за пазухі пляшку „Крамбамбулі" і напоўніць ёю ўгнеўлены келіх. Народ, у тым ліку і міліцыя, адобраць ягоны ўчынак усмешкай зразумення.



*Самыя вясёлыя і галасістыя салаўі — на вясковых могілках. Напэўна таму, што і днююць, і начуюць не ў гнёздах, а ў душах маіх спрахлых дзядоў. Яны ж, як сведчыць тутэйшы народ, былі самымі жыццярадаснымі і жартаўлівымі людзьмі на Палессі.*

*І бярозы тут самыя белыя... Такія белыя, што ўначы здаюцца прывідамі. Дзяды і нават божышчы маіх дзядоў, як тварамі, так і думамі, былі такімі ж светлымі.*

*І толькі жвір на вясковых могілках калючы і цяжкі, калі прыходзіцца кідаць свае тры жмені наўслед нябожчыку, як самыя важныя словы, якія не паспеў сказаць яму яшчэ ўчора.*

*Жыве старэнькая бабулька каля самых могілак, яна іх называе не інакш як раем і ўсё часцей і часцей думае пра яго. „Чаму"? — неяк запытаўся ў яе. „Таму што ў пекле ўжо нажылася" (А. С. — „Рай").*



*Міра прача і плача*

*Паэт Эдуард Акулін выпраўляе рытуальны недахоп*



# 10

Час пахваліцца адной сямейнай легендай. У сярэдзіне 90-х гадоў XX ст. мая малодшая сястра вучылася ў Лінгвістычным універсітэце ў Мінску. У вачах студэнтак Анатоль Сыс бачыўся як хадзячая легенда. Мала хто меў адвагу падысці да яго і выказаць словы захаплення або абурэння. Найперш з-за калюча-скандальнай славы, што як хвост валаклася следам паэта. Калі на аўтарскіх вечарынах ці рок-канцэртах з'яўляўся Сыс, у яго бок глядзелі са спадзяваннем чагосьці нечаканага або і немаральнага, напрыклад, што публічна распранецца...

У час падобнага рок-канцэрта Анатоль Сыс нечакана падышоў да маёй сястрыцы, пакланіўся і без слова дараваў ёй кветкі. Пасля адвярнуўся і выйшаў з залы. Праз момант публіка замест на сцэну ўзіралася на абдараваную дзеўку-загадку. Яна сама па сёння не ведае чаму вылучыў яе з тлуму. Тым больш, што на канцэрт прывяла яна свайго будучага мужа. Магчыма, Анатоль Сыс прадбачыў, што ў будучыні станем яго гарачымі прапаган-

дыстамі. Бо той рамантычны жэст аброс ужо ў квяцістую легенду, якую паўтараем пры кожнай нагодзе. А тым, хто недастаткова захапляецца, гатовы патлумачыць:

*— Гэта прыблізна так, як атрымаць кветкі ад Янкі Купалы.*



Пасля пабыўкі ў Гарошкаве я стаўлю не менш эстэтычнае пытанне: колькі абярэмкаў кветак даравам гарошкаўскім жанчынам Анатоль. Любоў і захапленне ў адрас паэта-аднапляменца, якія ўчынкамі выказалі прадстаўніцы прыгожага полу ў яго роднай вёсцы, шакіравалі. Тут нават не спрацоўваў менталітэт беларускай вёскі, дзе на першым і апошнім месцы — зайздрасць. Калі мы вярнуліся з могілак, сяброўкі і суседкі Анатоля вышаравалі і памылі драўляныя падлогі. У памяшканнях разносіўся прыемны пах драўніны. На ложках заслалі святочныя радзюжкі і навалаклі свежыя навалачкі на падушкі. У такт парадкам і прыемнай чысціні весела патрэскваў агонь у глінянай печцы-сцяноўцы. Я з чуласцю зірнула на вядро з памыямі ў куце.

Мы з Мірай самі запрасіліся наводзіць апошнія парадкі ў музеі. Першай прапагандысткай і завадатаркай мемарыяльных залаў стала найстарэйшая сястра паэта — статная Тамара Грыб. Пад яе наглядам мы прышпілялі лозунгі (*А. Сысу — 50*),

вешалі ручнікі і карціны. У першым пакоі, калі пераступіць парог сенцаў, вы трапіце ў „Мінск”. Карацей, інтэр’ер залы адлюстроўвае сталічную кватэру-аднапакаёўку па вуліцы Чарвякова, з кніжнай сценкай у цэнтры. Яе аздабляе фота паэта з амерыканска-беларускім спеваком Данчыкам. Далей, калі пяройдзем у другую залу, пабачым агромністую белую печ з выявай сэрца. У зале звычайна сядаюць абедаць або абмяркоўваць справы. У кожным закутку тут прысутны яшчэ след жыцця. Мне падалося, што ў сям’і вядучую ролю адыгрывалі жанчыны, якіх добры дух адчуваецца ў прасторы. Такую думку ўнушаюць жывыя і задумлівыя позіркі на старых сямейных фатаграфіях. Трэцюю частку музея складае пакойчык ад вуліцы. У мініяцюрнай залцы сямейныя здымкі і мастацкія партрэты, шафа з вопраткай паэта і маці, ложак Марыі Сыс, ляжанка, тэлевізар. Паэт любіў прылегчы на гэтай ляжанцы і слухаць расказы маці.



Спачатку мне самой было нязручна ўявіць Сыса з кветкамі ў руках. Мяшалі ўсякія чуткі пра бесцырымоннасць і грубасць, з якой у жыцці абыходзіўся ён з некаторымі гарачымі фанкамі. Ды і чытач хутчэй як з кветкамі захоча *ўбачыць* яго, напрыклад, з папяроскай. Гэта, аднак, не мяшае бачыць у паэце рыцара і рамантыка. Мне падабаец-

ца кпіна з мастацкага гламуру, іронія, з якой ён распраўляецца з інфантыльнымі і мутнымі вобразамі ў беларускай паэзіі: (*А ты прабач, у мяне закаханая, не да слёз мне тваіх каляровых, я сягоння на крыжы паэзіі, бы крывёю, сыходжу словамі*).

Паэты ў Анатоля — захавальнікі рыцарства, яны спяць у ног музаў, як рэкі спяць узгалоўем да ўсходу сонца...

Не без значэння і адно здарэнне ў нашым дзядоўскім турнэ. Калі вечарам, 31 кастрычніка, мы з Мірай Лукшай і сямюдзесяццю сябрамі — літаратарамі ды мастакамі — вярталіся з Гарошкава ў Мінск, дзесьці на заснежаных абочынах беларускіх дарог, дзе спыніўся аўтобус, Міхась Скобла, паэт і літаратурны крытык згледзеў у снезе жывыя рамонкі. Ён асцярожна сарваў кветкі і падарыў іх у мае рукі. Апошні выпадак прыводжу не дзеля хвальбы самой сябе, але дзеля рамантычных парываў у сучаснай беларускай літаратры. Як вядома, самым славутым букетам палявых кветак быў абдараваны Адам Міцкевіч. Кветкі з наднёманскіх палёў даравала яму графіня Габрыела П. (вядомая ў беларускай літаратуры як Адэля з Устроні). Разам з кветкамі яна паслала любімаму паэту ў Парыж флакончык вады з Нёмана і свой верш пад загалоўкам „Ты ліцьвін і я ліцьвінка". Аўтар „Дзядоў" належным чынам ацаніў свойскі падарак і ахрысціў нёманскай вадзіцай нованароджанае дзіцятка.




*Анатолева сястра Тамара*

*Аднапляменцы паэта на фоне яго кніжнай сценкі*



# 11

Які самы вабны экспанат у гарошкаўскай хаце-музеі? Спачатку мы думалі пра чыгунок, у якім паэт згатаваў легендарны крупнік з рыбіны. Мы ведалі, што беларускі турыст хутчэй чым кніжнай сценкай, на якой айчынная паэзія і драмы, пацікавіцца кулінарыяй. Апошняя прапанова, хоць прасякнутая творчым палётам і каштоўная ў рынкавым сэнсе, падалася паўсюднай і таму недастаткова годнай асобы паэта.

— Тут трэба такое, якога яшчэ нідзе не было, няма і не будзе, — сказала Міра Лукша.

— Ну і каб яно аздараўляла і варажыла, — падбіла я стаўку. Беларускі народ цэніць адно носьбітаў культуры здольных наклікаць цуд. Пра паэтаў, якія пішуць вершы і не наклікаюць цудаў, народ насміхаецца гладка-прыкольным вершыкам: *Не той паэт, хто піша вершы — а той паэт, хто вып'е першы!*

Так ці інакш, мы знайшлі дастаткова прыцягальны і намагнічаны экспанат у Гарошкаве. Адказ прыйшоў праз двое сутак пасля выезду з Га-

рошкава, на вакзале ў Слоніме, далёка за поўнач, дзе з вечара да рання мы чакалі аўтобуса ў Жыровічы. Здарожаныя і засаджаныя ў цесныя крэслы з жалезнымі парэнчамі, з-за якіх не было як след прылегчы, мы марылі пра адно: пра цёплы ложак з пасцелькай.



Думкі пра ложак і пасцель не давалі нам спакою ад пачатку нашага дзядоўскага турнэ. Ужо ў начным цягніку Гродна — Гомель Віктар Каздоўскі, аднапляменец з беларускага боку Белавежскай пушчы, папракнуў у недастаковым веданні спраў ложка. Ён раскінуў пасцель і паслаў як належыць, значыць, без адной маршчынкі. Пакольکі Віктар напамінаў майго сваяка-брата, яго жэст прамовіў як добрая рада ў пэўных справах. Добра пасланы ложак не проста мэбля, ён гарантуе поспех і дзейнічае як... Менавіта як творча дзейнічае адпаведна пасланы ложак я зразумела ў Гарошкаве. Калі мы з раднёй паэта селі за стол вячэраць, я крадком спазірала на стары жалезны ложак са здобнымі шчыткамі. Старэнькая мэбля стаяла сабе ля сцяны, дакранаючы белы прыпечак печы з выявай сэрца. Унізе, з-за зялёна-аранжавай плюшавай радзюжкі, выглядалі старыя боты. Мяне расчуліў спосаб, у які жанчыны паслалі ложак. Праз момант мне здалося, што я ў сваёй

падляшскай вёсцы. Той цёплы і родны вобраз наклікалі дзве звычайныя падушкі ў палатняных навалачках, якіх тут паклалі адна на адну і палажылі на пасланні, ля шчытка, ва ўзгалоўі. Падушкі пасылалі свой сакрэтны камунікат; яны не толькі заахвочвалі прылегчы і адпачыць, але вызначалі напрамак, у якім трэба ўкласці голаў да сну. Падобную паслядоўнасць мы прыкмецілі на вясковым могільніку, дзе большасць пакойнікаў пахавана згодна з народна-магічнай мудрасцю — галавой на захад сонца.



У хатцы-музеі сустрэнем яшчэ адзін ложак, праўда, ён, як сапраўдны скарб, прыхаваны ад вачэй і людской зайздрасці. Калі хто пераступіць парог музея, мала хто зверне ўвагу на карычневую канапу-раскладушку. Яна настолькі звычайная, што аж непрыкметная. Ды мала хто ведае, што следам сціплай мэблі цягнецца матывіруючая легенда. Сам Анатоль прыаздобіў свой ложак цудоўна-лячэбным міфам. Аж няраз пашкадаваў сам сябе, бо з-за славы мэблі паэт быў вымушаны спаць на падлозе або шукаць начлегу па людзях. З часам ягоная канапа займела славу ў Маскве, Вільні і нават у Беластоку.

Мы ўжо пісалі з якім жарам Анатоль заклікаў пісаць беларускія вершыкі айчынную ін-

тэлігенцыю. З падобным жарам ён заклікаў сваіх сяброў і сябровак нараджаць дзяцей. У апошняй творчасці мела спрыяць яго асабістая канапа. Анатоль запрашаў у свой ложак усе пары, якія прыходзілі да яго ў госці. З часам мэбля пачала дзейнічаць як фетыш. Дастаткова да яе дакрануцца, каб пасля дзевяці месяцаў у сям'і нарадзілася дзіцятка. Кантакт з мэбляй, пра што інфармуюць сталічныя блогі, неверагодна падтрымаў у фізічным сэнсе беларускую нацыю. З яе дапамогай нараджалі нават пастарэлыя дзеўкі і бясплодныя пары. Сам Анатоль вельмі адказна ставіўся да сваёй місіі. Калі, дзякуючы ягонай канапе, нараджала сяброўка з-пад знака *сінгл*, ён высакародна прапанаваў ёй усынавіць паўсіротку.



*Мройны паэт. Карціна Алеся Кватткоўскага*

*Тамара Грыб з партрэтамі брата*



# 12

Кожны, хто вандраваў па Беларусі, ведае колькі часу і нерваў зжырае праблема прапіскі. Мы яшчэ не даехалі ў Гарошкаў, як пачалі сушыць мазгі рэгістрацыяй пабыўкі. З-за апошняй калатнечы аж не хацелася сыходзіць з цягніка. Каб справіцца ў трох дазволеных без прапіскі сутках, мы павінны былі з'ехаць яшчэ ў той самы дзень што і прыехалі. Апошні варыянт не даваў гарантыі, што на час паспеем дабрацца на мяжу і мы, прыкладова, маглі б не дастаць квіткоў на зваротны цягнік з Рэчыцы ў Гродна...

Спачатку, дзеля адной прапіскі, мы хацелі спыніцца ў Рэчыцы, пасяліцца ў нейкай гасцініцы, набыць рэгістрацыю і адразу ехаць у вёску паэта. Ранейшыя досведы падказвалі, што „ад рукі" нам не паставяць патрэбнай пячаткі. Паколькі набліжаліся выхадныя дні, справа магла б зацягнуцца да панядзелка. Словам — кашмар! У такой неразбярысе сваю ролю іграюць падказкі сяброў. Калі пазваніў нам Сяргей Сыс і падказаў ехаць у Гарошкаў, мы мігам прыдумалі яшчэ адзін

варыянт: за прапіскай пойдзем у мясцовы сельсавет. У справе начлегу ў нас не было вялікіх патрабаванняў.

— Як не будзе месца ў хаце, то заначуем на саломе або сенавале, — падумалі мы ўголас.

Паводле сталічных блогаў сам паэт *спаў да восені на сенавале ў хляўку, любіў выпіць, ездзіў у Сібір вывучаць жыццё.*



У Гарошкаве ўжо з парога мы зразумелі, што Анатолевы начлегі на сенавале — чыстая праява экстравагантнасці. Жыццё-быццё ў ягонай вёсцы мала ў чым адрознівалася ад гарадскога. Нам нават не дазволілі пяшком ісці ў сельсавет. Вяскоўцы з канца ў канец вёскі перамяшчаюцца на сваіх машынах або на гарадскіх маршрутках, якія заязджаюць з суседняй Рэчыцы. Праўда, вёска цягнецца аж пяць кіламетраў паўз шырокую даліну Дняпра, далей спалучаецца з Заспай, каб разам выглядаць як адзін гарадскі пасёлак. Аднак Гарошкаў і Заспа розныя як неба і зямля ў ментальным сэнсе. У Заспе, дзе сельсавет, парк, школа, усё з усім перамяшалася. Пасля чарнобыльскай катастрофы тут перасялілі жыхароў зоны з дзвюх вёсак. Мясцовы дыялект адразу саступіў месца славутай *трасянцы* і ўсякай саветчыне. Апошнюю асаблівасць мы спазналі на ўласнай скуры.

Згодна плану мы паехалі ў сельсавет за прапіскай. Спачатку нам загадалі чакаць аж вернецца з аб'езду па глыбінцы спадарыня старшыня. Без яе тут не ўмелі адказаць на самае простае пытанне: *ці можна ў іх прапісацца?* Калі ўлічыць беларускія меркі, нас „абслужылі" мігам. Вяртання кіраўніцы нам прыйшлося чакаць толькі гадзіну і пяцьдзесят пяць хвілін. Праўда, пасля яе вяртання мы нічога так і не даведаліся і не афармілі. Жанчына аглянула нас з галавы да ног, падумала і параіла з'ездзіць за прапіскай у Рэчыцу.



Адна са сталічных легенд апавядае быццам Анатоль Сыс прапісаў Міру Лукшу і Ганну Кандрацюк у сваім родным доме ў Гарошкаве!

Для ўсіх, хто сумняваецца ў апошнім цудзе, мы можам паказаць пячаць Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, якая пацвярджае наш пяцідзённы побыт у хаце паэта. Прэстыжны побыт аднатаваны ў нашых пашпартах. Увесь смак у тым, што хата ад смерці паэта стаіць пад замком, і ў ёй жыве адзін кот Зайка.

З Заспы мы адразу пагналіся ў Рэчыцу. У матэрыялізацыі згаданага цуду мы абавязаны Людзе Бельскай, сваячцы Анатоля. Людміла загрузіла нас у сваю машыну і без аглядкі павезла ў Рэчыцу. Сказаць праўду, мы ўжо не разлічвалі

на ўдачу. Нам асталося менш за трыццаць хвілін да закрыцця ўстановы. За такі час — я прыгадала апошні досвед з прапіскай у 2007 годзе — мы не паспелі б запоўніць той кучы папер, якой на *добры дзень* закідалі замежнікаў...

У Рэчыцы нас афармілі на працягу дзесяці хвілін, ветліва і прафесійна, аж не хацелася верыць. Замест дзесяці бланкаў мы запоўнілі адзін лісток. Да гэтага нам трэба было пайсці ў банк і асабіста заплаціць за прапіску (каля 10 долараў ад асобы). Пасля нас прапісалі „ад рукі" і пажадалі прыемнай пабыўкі. Мы былі апошнімі наведвальнікамі ў бюро і сапраўды мелі шчасце, бо толькі па пятніцах установа працуе да восьмай гадзіны вечара.

— А чаму вас не прапісалі ў Заспе? — пацікавілася яшчэ на развітанне чыноўніца.



*Родны дом Анатоля Сыса*

*На чыгуначным вакзале ў Рэчыцы*



# 13

Светлай памяці журналіст Альгерд Неўроўскі ўмеў цудоўна пажартаваць з надта частай прысутнасці ў беларускай мове прыметніка «цудоўны». Асабліва бавілі яго такія спалучэнні як «цудоўнае беларускае надвор'е» або «цудоўныя людзі-беларусы», бо дзеля першага — даказваў ён — мы вымушаны перціся ў Крым, а дзеля другога — на могілкі.



Мала калі ў жыцці, на хаду, аналізуем недарэчныя гутаркі, якія без толку ўбіваюцца ў размову і ад якіх застаецца пачуццё прэтэнцыёзнасці. Год да сваёй смерці Альгерд пальнуў такое: *Я таксама як Сыс скончыўся без пары!* Тое, што прамовіў пра сябе ў мінулым часе, здалося тады граматычнай памылкай. Як жа скончыўся? Чалавек сядзіць сабе як Радзівіл з куфлем піва ў каварні, смяецца ледзь не лопне і, раптам, такая замагільшчына! Нашыя беластоцкія бяседы з Альгердам звычайна кружылі вакол літаратурных ту-

совак. Ён, як мала хто, быў азнаёмлены з літаратурнымі (ды не толькі) легендамі беларускай сталіцы. Сам, дарэчы, пух ад настальгіі па Мінску і старой кампаніі. Не дзіва, што кожны ўспамін пра Анатоля Сыса дзейнічаў як добрая псіхатэрапія і натхненне для чарговага працадня ў заробленым як конь Беластоку. Альгерд любіў пераўвялічаныя гісторыі, асабліва тыя прыдуманыя, пра якія ніхто апрача расказчыка не ведаў і не чуў, нават сам герой. За гісторыю пра тое як Анатоль Сыс пагнаў нас у магазін па віно ён быў гатовы не толькі пачаставаць вядром сухога віна, але і занесці на сваіх плячах дахаты. Паціху, як і мы, сам займаўся крыптапрамоцыяй Анатоля Сыса ў СМІ. Некалькі дзён да згаданай бяседы ён прачытаў у эфіры Радыё Рацыя звестку пра ўсталяванне помніка на магіле паэта ў Гарошкаве. Але не толькі гэта дазваляла камунікаваць на падобных хвалях. Альгерд навіны аздабляў літаратурнымі цытатамі, сам з памяці чытаў вершы, прытым тыя знакавыя. І, як не дзіўна, гэта гучала свежа і верагодна, без пафасу і без нудоты, амаль як факты.

* * *

Пасля прыезду з Гарошкава ў Мінск мы дамовіліся з'ездзіць у нядзелю на магілу Альгерда разам з яго маці. Спадарыня Эльвіра Невяроў-

ская так і не дачакалася нас у назначаным месцы і часе. Вінаватая айчынная метафізіка! У літаратурнай кватэры Шніпоў, дзе папрасіліся мы на начлег, пасля поўначы нешта грукнула. Здавалася, разваліласся сцяна або столь (або адна з нас грымнула з ложка!). Раніцай высветлілася іншае. Ноччу абвалілася кніжная сценка ў нашым пакойчыку. Калі гаспадар зірнуў на кучу паваленай літаратуры, ён доўга не мог прамовіць слова. Наверсе кніжнай гурбы ляжала картка з вершам Людмілы Рублеўскай *Памяці Анатоля Сыса (За чырвонай шторай дагарае свечка...)*. Не дзіва, што пасля начнога сеанса мы пачалі думаць, а дакладней таптацца як жанчынкі з глыбінкі. Спачатку мы згубілі арыентацыю ў прасторы і заблудзілі ў знаёмым месцы. Замест на прыпынак, з якога адпраўляюцца аўтобусы ў Калодзішчы і дзе чакала нас спадарыня Эльвіра, мы пацягнуліся ў супрацьлеглы бок Мінска, дзесьці пад мост. Праз вокны аўтобуса мы пабачылі (і сфатаграфавалі) шэсце пад бел-чырвона-белымі сцягамі. На фоне заспанага горада яно выглядала як з'ява з іншага свету. Ды ніхто з пасажыраў не пракаментаваў уголас самавітай карціны. Быццам толькі мы адны бачылі тое дзіва. Як пасля аказалася, мы мінуліся з дзядоўскім шэсцем у Курапаты. Тыя, што ішлі ў калоне пад сцягамі, быццам змовіліся з Мірай Лукшай і Ганнай Кандрацюк. Удзельнікі шэсця

неслі ў Курапаты бел-чырвона-белы вянок, прысвечаны між іншым светлай памяці Альгерду Невяроўскаму. Мы ў сваю чаргу везлі падобныя патрыятычныя букеты хрызантэмаў і знічкі з Жыровіч, купленыя на мінскім чыгуначным вакзале.



Магілу Альгерда Невяроўскага мы адшукалі з дапамогай адміністрацыі пагоста і іхняга разумнага сабакі, які, як GPS-маніторынг, выбег з будынка ў пажаданы нам бок.

— Это *тот* журналіст? — упэўніўся яшчэ малады мужчына, найхутчэй кіраўнік некраполіі. Яго сябры, таксама яшчэ маладыя мужчыны, глянулі на нас як на цётак з Сузор'я Арыён.

— Тот! — адказалі мы ў адзін такт на пытанне.

Каб не згубіцца сярод магіл, кіраўнік *кладзьбішча* запісаў нам на картачцы каардынаты магілы: *Уч. 149 ряд. 3 м. 28.* Без ягонага лістка мы і за год не знайшлі б патрэбнай магілы. Некраполія ў Калодзішчах уражвае гіганцкімі памерамі, блізнячым падабенствам магіл і помнікаў ды нейкай адчайнай самотай. Нас крыху здзівіла, што наш калега, па адукацыі гісторык і каталіцкі клірык, пахаваны сярод праваслаўных. Стоячы над яго свежай магілай, аздобленай гурбай бел-чырвона-белых вянкоў (між іншым ад Радыё Рацыя),

нам не хацелася думаць пра ягоную недарэчную і заўчасную смерць. Здаецца і сам Альгерд не хацеў гэтага. Згодна з традыцыяй нашага дзядоўскага турнэ мы праспявалі Альгерду «На вуліцы мокра», налілі яму чарку і запалілі знічкі. Наш жэст быў прыкмечаны ў лепшым свеце. Праз сорак хвілін мы пабачым у мінскім метро мужчыну капля ў каплю як наш цудоўны калега-жартаўнік. Двайнік Альгерда кідаўся ў вочы з-за дзівосных апранах у розных размерах і стылях у модзе і часе. (Альгерда спапялілі, таму, мабыць, ён быў вымушаны на ляту пазычаць вопратку ад калег з таго свету). Сімпатычная здань у скураным плашчы і расцягнутым швэдрыку спачатку сакрэтна спазірала ў наш бок, а пасля, калі мы выйшлі з вагона і накіраваліся да выхаду, стралой апярэдзіла нас на нейкія дзесяць метраў і безупынна азіралася, каб пасля, калі выйдзем на паверхню Мінска, растаяць бясследна ў дзённым святле.

Маючы ў галаве «Дамавікамерона» ды «Здані і пачвары Беларусі», мы пабаяліся азірацца на мінскае метро, месца, дзе, паводле названых крыніц-кніг, як нідзе ў свеце здольна матэрыялізавацца любая замагільшчына.

# 14

Анатоль Сыс прысвяціў інаку Мікалаю з Жыровіцкага манастыра (вядомага ў літаратуры як Зьніч, а ў міры як Алег Бембель) страсны лірычны верш „Паэт”: *На памежжы чужыны з Айчынай па начох ходзіць сумны паэт, ён запаленымі вачыма, як агнём апякае свет...* Зьніч не астаўся ў даўгу і прысвяціў Анатолю Сысу вытанчаны лімэрык: *Нудоту сходаў аздабляе, як закаханасці — капрыз, нібыта сам выгнаннік раю, — скандальна-геніяльны Сыс.* У рамантычна-барочным літаратурным дыялогу паэтаў адчуваецца тэмпература іх сяброўства. Свой успамін пра Анатоля Сыса інак Мікалай азобіў не менш прыгожай і чуллівай фразай. На пытанне, як пасля гадоў праведзеных у манастыры ён успамінае паэта-скандаліста, Зьніч адказаў:

— З вялікай пяшчотай, тугой і радасцю я яго ўспамінаю.

* * *

— У Маякоўскага, — кажа інак Мікалай,

— ёсць такія радочкі: *буяніць як Ясенін ва ўчастку!* Вось, Сыс буяніў у доме літаратара, на з'ездах пісьменнікаў. Праўда, можна сказаць, што буяніў ён „у меру" і тую нашу *нудоту сходаў аздабляў*. Яго ўсё любілі, даравалі яму гэтыя шаленствы. Ён быў шчыры ў такіх сваіх праявах...

Ад пачатку знаёмства Зьніч бачыў Анатоля Сыса ў пары з Сяргеем Ясеніным.

— Пры ўсіх вялікіх розніцах іх характараў і натур гэтая паралель для мяне відавочная, — адзначае манах-паэт. — Штосьці такое ёсць, што вёска дае такі ўсплёск геніяльнасці, некалі адчайнадушнай, вялікай сілы, такой смеласці без берагоў...

Праўда, больш як эстэтычны даклад нам хацелася пачуць хоць бы адзін жывы прыклад пра неўтаймаваную адвагу Анатоля Сыса. З другога боку мы памяталі, што ў святым месцы як нідзе ў свеце цягне на спакушэнне. Інак Мікалай трымаўся старанна асэнсаванага грунту:

— У Божай задуме аб іхніх лёсах ёсць сапраўды нешта агульнае. Вось два вясковыя хлопцы, праваслаўна-славянскія душы, якія па-свойму выплеснуліся, ну і трагічна абарваліся іх струны жыцця ў маладыя гады. І адзін, і другі адышлі без пары, бо ж вельмі ўпоперак сталі антыхрыстам.

На добрую справу нас у мурах Жыровіц-

кага манастыра не павінен быў здзіўляць праваслаўна-славянскі кантэкст размовы. Хоць у адносінах да Анатоля Сыса гэта гучала арыгінальна. Для некаторых крытыкаў паэт з Гарошкава явіцца як увасабленне язычніцкай традыцыі. Апошняя тэорыя не супадала з жыццёвай практыкай.

— Адчувалася, што і ў яго ёсць туга па манастыры, — цягнуў інак Мікалай, — ён некалькі разоў наведаў мяне ў Жыровічах. Даў фотку з матуляй і папрасіў, каб маліцца за іх грэшных. Тая фатаграфія са мной і зараз і я выконваю ягоную просьбу.

Праз момант я ўявіла Анатоля Сыса як манаха праваслаўнай лаўры і засмяялася.

— Ну, але Гасподзь яго ўзяў прама да сябе, мінаючы манастырскую ступеньку, — у адказ думкам дабавіў Зьніч.



Прынцыпова мы не планавалі ехаць у Жыровічы. Здавалася, замнога шчасця ў адзін раз. Сёння ні я, ні Міра Лукша не сумняваемся, што ў матэрыялізацыі цудоўнай мары дапамог нам Анатоль Сыс. У той самы час, калі мы ад рання да вечара тапталіся па Калодзішчанскіх могілаках, у кватэру Шніпоў заходзілі дзіўныя госці. Іх, напрыклад, наведаў мастак Алесь Квяткоўскі. Цягам апошніх васьмі гадоў ён сябраваў з Анато-

лем, натхняўся яго лірыкай, маляваў паводле слоў паэта. І вось якраз на Дзяды трэба было яму наведаць Шніпоў-Рублеўскіх ды панаракаць на эстэтычныя хібы вёскі Гарошкаў. Раптам, на кухні грымнула! Калі субяседнікі зазірнулі за парог, аж адубелі. Па падлозе валяліся яблыкі і апельсіны, якіх нябачная рука сапхнула са стала. Такія плады часты рэквізіт на карцінах Алеся Квяткоўскага. Каб не было сумненняў, што каментарый датычыць гутаркі пра эстэтыку вёскі Гарошкаў, на вачах субяседнікаў перавярнулася карціна, якая ад гадоў, непрыкметна, стаяла сабе на падаконніку.

Пасля паранармальнай сустрэчы з Альгердам мы не сумняваліся ў пачутых сенсацыях. Каб вярнуць спакой пад дах сям'і, мы рашылі пакінуць іх дом і з'ехаць чым хутчэй і як мага далей ад Мінска. Як слушна падазравалі, разам з намі пацягне і дух паэта. Мы пайшлі на вакзал, селі ў першы аўтобус і паехалі ў напрамку польскай мяжы. Такім цудам нас занесла ў Жыровічы, а дакладней у Слонім. Каб не ісці ў манастыр з мяшком дзівосных і сенсацыйных здарэнняў, мы рашылі прачакаць ноч на аўтавакзале, супакоіцца, перадумаць пабачанае і сустрэтае. Калі раніцай мы павіталіся з інакам Мікалаем, той не здзівіўся нашаму візіту.

— Я таксама не спаў — сказаў нам на прывітанне паэт-манах.



Звычайна чалавек не хоча сказаць усяго другому чалавеку. Гэты недахоп найбольш відавочны пасля смерці блізкай нам асобы. Замест нявыказаных слоў мы ўспамінаем жэст, выразны позірк, дотык. Так менавіта запамятаўся і Анатоль Сыс нашаму субяседніку.

— У памяці стаіць такі адзін вобраз, дакладней я ўспамінаю ягоны позірк, — адзначае інак. У келлі № 9, дзе пасля вячэрні сустрэлася нашая тройца, час павярнуўся ў 80-ыя гады XX стагоддзя.

— Вакол Анатоля заўсёды круціліся юныя рыфмары і сястрычкі-рыфмаркі. Я называў іх *сысункамі.* Вось аднойчы, Сыс і *сысункі* з'явіліся ў мой мінскі дом. Анатолю трэба было друкаваць радочкі і я раней пазычыў яму сваю друкарачку. Ён прыйшоў з гэтай друкарачкай, звярнуў мне машынку і, як выходзіў, ён нічога не сказаў, а толькі неяк так паглядзеў на мяне і тую сядзібу. Ну вось замапятаўся той позірк. У ім была нейкая бязмежная туга і адначасова пяшчота. (Тады я яшчэ жыў у бацькавай сядзібе, якую *добрыя* людзі пасля засудзілі і адабралі мне. І не прадчуваў таго гора, якое зваліцца пасля на галаву...)

— Памятаю яшчэ такую сцэну на могілках, калі Анатоль уцякаў ад *братоў* ахоўнікаў. Ён быў

якраз пасля войска. Моцненькі, выспартаваны. На ляту пераскочыў плот і ўцёк ім. Так што тыя адборныя *браты* прафесіяналы-ахоўнікі не далі рады яго спаймаць. Брат Анатоль быў такі... Такі няўлоўны ад пагоні!



*Інак Мікалай (Зьніч). У дарозе з могілак у манастыр*

*У гасцях у Людмілы Рублеўскай (злева) і Віктара Шніпа*



# 15

Сёння сама здзіўляюся, але будучы ў Гарошкаве, як усе апошнія, я святкавала дзень народзінаў паэта! Факт, што Анатоля Сыса не было ў жывых ужо пяць гадоў, не перашкаджала гаварыць і думаць пра яго як пра жывога і прысутнага. Мая ніўская калега пераплюнула мяне на сто кіламетраў у паранармальным напрамку: у пэўны момант Міра „пабачыла" нябожчыка як сядзіць разам з усімі за сталом. Ён меў прысесці на лаве пад вялікім „ручным" гадзіннікам, побач вашай Ганусі. Паводле народных прыкмет гэта абазначала адно: я першай кіпну з гэтай кампаніі. Аднак, на здаровы розум, Анатоль быў вымушаны сесці побач мяне — там было вольнае месца і там паставілі яму кілішак. Сёння сама здзіўляюся, але седзячы за сталом з сямейкай паэта, я машынальна падключылася да дзядоўскіх абрадаў. Калі побач мяне перакулілася сама па сабе налітая нябожчыку чарка, падобны выпадак здарыўся ўжо на магіле паэта, я паставіла пасудзіну і напоўніла яе гарэлкай. І, каб усё было добра, накрыла яшчэ лустай хлеба.



Свядомасць, што ўдзельнічаем у памінальнай трызне, з'явілася пасля вяртання з Беларусі. У паранармальны бок штурхнулі сенсацыйныя ньюсы, якія ўслед нашай вандроўцы пацягнуліся на сталічных блогах. Паводле іх мы з Мірай і духам паэта насіліся па Мінску і беларускай глыбінцы, пакідаючы прыемны зёлкавы пах, ззянне святла і перакуленыя кніжныя сценкі. Мы яшчэ раз грунтоўна перадумалі ўсе знакі і прыкметы, прыпісаныя дзядоўскім абрадам. Ад апошняй навукі аж пухне галава. Мне, на той прыклад, мэнчыць адна рытуальная памылка: я несвядома з'ела стравы, прыпісаныя душам памерлых. Паводле экспертаў па дзядоўскай кулінарыі, асноўнае месца ў памінальнай вячэры адыгрывала галава жывёлы. Гэты архаічны абрад зафіксаваны цалкам нядаўна на нашай Гарадоччынне ў вёсцы Коматаўцы (у пачатку XXI ст.) магістр Гражынай Харытанюк з Беластоцкага ўніверсітэта. Праўда, прысутнасць галавы тут была абмежавана да ролі сімвала. Дзеля рытуалу на Гарадоччынне скарысталі галаву пеўня. У час вячэры ставілі галаву на стале, разам з іншымі стравамі. Рытуал з галавой быў вядомы на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Нашы продкі прымянялі больш мясістыя рэквізіты. Спецыяльна пад Дзяды яны рэзалі барана або казла, калолі каба-

на. Галовы жывёл спачатку аддзялялі ад корпуса, пасля варылі ў катле, клалі ў асобную міску. Пасудзіну ставілі ў рагу стала ля покуці. Яе тройчы абыходзіў патрыярх роду і прызываў па імёнах на супольную вячэру продкаў. Чарговасць вызначалася ад канца, значыць, клікалі ад апошняга пакойніка ў родзе. Пасля вячэры галаву жывёлы выносілі на двор і затыкалі на астраколы, каб ёй паласаваліся птушкі або каты.



Сёння сама здзіўляюся, але тыя дзядоўскія моманты, якія напаткалі ў Гарошкаве аўтарку „Царскай трызны”, з перспектывы часу і адлегласці напамінаюць добра падрыхтаваны сцэнарый. Ніхто ж з сям’і Анатоля не прадбачыў, што наведае іх першая гурманка абрадавых страў. Калі на стол паставілі юшку са шчупака, кісель з журавінаў і бліны з мёдам, я адразу пачала хваліць мясцовых кухарак. Як не дзіўна, дзве першыя стравы трапілі на наш стол проста з памінак на сорак дзён, якія ў той самы дзень спраўлялі ў блізкім суседстве. Я з’ела дзве галавы і хвост са шчупакоў злоўленых у міфалагізаваным паэтам Дняпры. Мой смак на дзядоўскія стравы застольнікі пракаментавалі на свойскі манер: „Ганулся, праўдзівая гарошкаўская дзеўка!” Адразу мне падшукалі тут свойскі адпаведнік. Карацей, я мела на-

памінаць іх сваячку Любку. Апошняе параўнанне зноў павярнула мяне на наш этнічна-падляшскі панадворак. Аляксандар, дваюрадны брат паэта, які з'явіўся на вечарыну проста з калгаса „Савецкая Беларусь", жыва напамінаў мне суседа Ромка з маёй Кутлоўкі. І выглядам і голасам, ідэнтычным як Анатоля Сыса.

# 16

Ментальна-архаічнае сугучча прыдняпроўскага Гарошкава і маёй падляшска-балотнай Кутлоўкі я згледзела пяць гадоў раней, дакладна ў час змагання за музычны праект *Журылася Катэрына*. У запісе кампакт-дыска выдатна дапамог мне *Пан Лес*. Анатоль Сыс вучыў як дакранаць духовых пластоў, закадаваных у словах і рытмах старых песень. Іх курганная таемнасць збівала з панталыку і наклікала хваробу-праклён. Я адчувала душой і целам тыя легендарныя вандроўкі готаў, кельтаў, фінаў, татара-манголаў, яцвягаў, што рухаліся праз нашу зямлю і мадыфікавалі аблічча ды характар маіх аднапляменцаў. Здавалася, праз магічна-пажадальны змест старажытных напеваў, іх рытм прымеркаваны да хуткасці цячэння найбліжэйшай у наваколлі ракі, высвятляліся і собскія рысы мінулых пакаленняў. У гэтым старым люстры падляшска-беларуская сучаснасць явілася як чалавек пяць хвілін перад смерцю. Рэчаіснасць вітала холадам і хваробамі, на якіх не было лякарства. Думаць як «на вачах» задыхаецца куль-

тура старажытнай нацыі — страшней як зазірнуць у пекла. Ад падобных досведаў я хадзіла па Беластоку як *пошасныя* Анатоля Сыса і плявала на гарадскія тратуары. І як не дзіўна — зараз, у час запісу нашага дзядоўскага турнэ, знаёмая хвароба паўтарылася...

* * *

*Гэтыя людзі дыхаюць цяжэй, чым валуны,*
*адна зямля ведае, як ім цяжка.*
*Іх мільёны, цэлы народ —*
*і ўсе яны блізняты,*
*і толькі выбраныя з іх*
*ведаюць паталогію хваробы свайго народа,*
*і толькі яны адныя не могуць*
*звыкнуцца з ёю,*
*ім дыхаецца цяжэй, чым каму,*
*таму хрыпяць іх грудзі,*
*і душыць жахлівы кашаль,*
*і разам з слінаю яны выхарквуюць кроў,*
*наўмысна выхарквуюць на вуліцах горада,*
*у крамах і на сваіх працоўных мейсцах,*
*у сваёй сям'і і на чужых людзях,*
*бо ў гэтай крыві крыецца іх хвароба,*
*бо ў гэтай крыві выратаванне іх народа.*
*Сябры спачуваюць ім,*
*употайкі выплёўваючы сваё харкавінне,*
*абывацелі гідзяцца і ўцякаюць,*

*як ад пошасных,*
*але ўсё адно, калі ідзеш па горадзе,*
*усё часцей і часцей сустракаеш людзей,*
*якія душацца крывавым кашлем.*
*І я не магу так болей жыць,*
*я задыхаюся,*
*я паміраю,*
*сеначы ў мяне кроў хлынула ротам*
*на мае рукапісы, на маіх дзяцей,*
*цяпер і яны пошасныя...*
*(А. С. — „Пошасныя”)*



Кожны, хто сутыкнецца з роднай вёскай Анатоля Сыса, пабачыць і адчуе жывое Палессе. Калі я спытала Сяргея Сыса, чаму Анатоль лічыў сябе нашчадкам крывічоў (так часта заве сябе яго лірычны герой), той толькі паціснуў плячыма. І падумаўшы, як добра сказаць, спаслаўся на свой вопыт: „У той час мы мала што ведалі. Тады, на зломе васьмідзесятых і дзевяностых, па-за вузкім колам спецыялістаў не надта разбіраліся хто ў нас крывіч, а хто дрыгавіч”.

Разблытаць загадку дапамагла адна дэталь у творчай біяграфіі паэта. У пачатку творчай дарогі Анатоль адкрывае для сябе спадчыну Вацлава Ластоўскага, у прыватнасці вялікага папулярызатара Беларусі як дзяржавы крывічоў — Крывіі.

Анатолева захапленне крывіцкімі міфамі выспявае ў асаблівы плён. Свой першы паэтычны том ён назаве словам знойдзеным у крывіцкмім слоўніку Ластоўскага. Мова пра ягоны *Агмень*, дзе лёс лірычнага героя і лёс легендарнай Крывіі зліваюцца ў адну плынь. У апошняй практыцы адчуваецца энергія накшталт шаманства. У Анатоля Сыса натуральная схільнасць да шаманскага тону, чарадзейства. Мне замапятаўся і той стражытны шаманскі манер, на які ён спяваў беларускія песні і як хваравіта не пераносіў усякага псеўдафалькслору...

(*У гэтай краіне не маю я песні, якая б народнай была і маёй, якую б сябрына запела ў Бярэсці, а рэха ўзышло за Дянпром, за Дзвіной... (А. С. — „Маналог Апанаса Філіповіча"*)

# 17

У Гарошкаве найбольш не хапала ракі, якая пад уплывам прачытанага, здавалася, будзе цячы тут замест вуліцы. Той вобраз магутнай вады ўнушалі асабліва трывожныя радкі пра крыгаход напрадвесні. Запамяталася карціна. Навокал ноч. Анатоль разам з матуляй не спяць. Слухаюць як прабуджаецца Дняпро. Спалучэнне стыхіі з бяссонніцай прамаўляе трывогай. Адначасова ўсведамляем як спрацоўвае генетычная памяць у людзей, што нарадзіліся ля вялікай ракі. Яны здольныя разгадваць яе настрой, зазірнуць у цёмныя віры, прачытаць мімалётныя знакі. Невыпадкова вялікія паэты нараджаюцца ля вялікіх рэк.

— Як „гучыць" крыгаход? — спыталі мы ў Сяргея Сыса. — Чаму ён не дае сплюшчыць вока?..

— Ён не гучыць, а „страляе", — паясніў сваяк і аднапляменец Анатоля.

— Як страляе?

— Нармальна, як артылерыя. Грукат ідзе ад крыгалому, калі пад змерзлай паверхняй раскоўваюцца ўнутраныя пласты лёду...

— Людзі баяцца крыгалому?

— Крыгалом успрымалі добра, бо гэты „стрэл” абазначаў, што вясна ўжо не за гарамі....

* * *

*Мой Дняпро тры тысячы гадоў*
*косці круціць у вірох барвовых,*
*аж дасюль бруіцца з ранаў кроў*
*на ягоных змучаных рамёнах,*
*мрояцца адвечнымі віры*
*людзям зь берагоў і птушкам з неба,*
*быццам вавілонскія муры*
*ў плашчаніцах воблачнага зрэб'я.*
*Нават ноч баіцца зазірнуць*
*у віры —*
*здаецца, пад карчамі*
*крывічы прыкутыя ляжаць*
*да гармат расейскіх ланцугамі,*
*а на барву змрочнае ракі*
*узыходзяць чарапы, як поўні,*
*і на іх, нібы на маякі,*
*праз вякі*
*брыдуць з палону коні.*
*Рэха капытоў майго каня*
*працінае вір адчаем лютым,*
*толькі не сустрэну яго я,*
*ланцугамі да гармат прыкуты.*
*(А. С. — „*** Мой Дняпро...”)*



У падобным змрочна-катастрафічным настроі паэт праявіў эратычны ўзлёт лірычнага героя. Асабістыя пачуцці пазначаныя вялікай тайнай, якую паэт даручае адной рацэ. Іх моц на момант фарбуе барвамі вясёлкі змрочныя віры, сыціць жыццятворным кіслародам, ажыўляе міфы пра рай. Карціны шчасця ў Анатоля Сыса, як прынцып, абрываюцца нечакана і жорстка.

Эратызм у Анатоля Сыса, як не цікава, нераздзельны з песняй, вадой і агнём, быццам жыўцом спісаны з купальскіх абрадаў. Гэты магічна-архаічны абрад у гонар сонца спраўляюць у Гарошкаве па сённяшні дзень, дакладней ва ўрочышчы, вядомым як Цішкаў пляж.

— Дзяўчаты бяруць з сабой багата яды, хлопцы, канешне, выпіўку і гуляюць да белага рання, — апавядае равеснік паэта, удзельнік гульбішча трыццацідвухгадовай даўнасці...

— А як тады гулялі?

— Нармальна: спявалі, купаліся...

— І коні таксама купаліся разам з людзьмі?

— Коней мылі яшчэ да таго як распаляць агонь, пасля іх пускалі пасвіцца ля ракі.

— А якія песні спявалі?

— Адно што запомнілася, гэта жарты, якія прыдумвалі хлопцы. Яны падмаўлялі дзяўчат скі-

даць адзенне і скакаць ля агню. Бо гэта мела ачысціць іх ад прышчоў, высыпкі і ўсякай каросты. Пасля моладзь дабіралася ў парачкі і разыходзілася па лугах пашукаць папараць-кветку!

Сярод адмаляванай карціны мы „пабачылі" таксама знаёмую парачку: маладзенькага Анатоля Сыса з дзяўчынай з Гарошкава.

— Анатоль усё жыццё кахаў яе АДНУ, — сказаў наш субяседнік. — Ён пакахаў яе яшчэ ў школьныя гады. Яны доўга сустракаліся, разам гулялі, любіліся... Пасля штосьці здарылася. Т. уцякла ад Анатоля ў вялікі горад, там выйшла замуж, нарадзіла дзяцей. Анатоль ніколі не змірыўся з яе адыходам. Некалькі разоў званіў ёй, канешне, калі быў выпіўшы, бо па-цвярозаму гэтага не ўмеў зрабіць...

— А чаму пра гэтае пачуццё ніхто не піша, не гаворыць? — пацікавіліся мы. — Гэта ж гонар быць музай геніяльнага паэта!

— Лёгка вам гаварыць, — папракнуў нас субяседнік, які папрасіў не называць яго імя. — А вы падумалі, як такую навіну ўспрыме яе муж? З-за такога ашалець можа, вока падбіць, наклікаць пад дах разборкі...

Мы з Мірай таксама не ведалі як успрыняць апошнюю сенсацыю. Супраць ідэі АДЗІНАЙ жанчыны і тым самым супраць нас саміх маглі б насцярожыцца дзесяткі „ўдавіц", якія выявілі сябе пасля смерці паэта.



Фізічная блізкасць ракі ў творчасці Анатоля Сыса — вобраз спісаны з рэальнага краявіду. Яшчэ адносна нядаўна, у час веснавога разводдзя або летніх паводак, Дняпро разліваўся на семдзесяць кіламетраў і падыходзіў аж пад хаты гарошкаўцаў.

— Выйдзе мужык на агарод, а там у раўку пасля бульбы шчупак як парася калоціцца, — успамінае Сяргей Сыс.

У час вясновых паводак рака часта залівала ягоную Заспу. Апошні ўспамін яшчэ сёння сантыментам праплывае праз сэрца. Сёння рака здаецца спакойнай і адлеглай (з панадворка паэта на Цішкаў пляж кіламетры тры напрасткі, з могільніка з пяць кіламетраў). Шаснаццаць гадоў таму на прасторах даліны зрабілі праект: галандскія польдэры. Рака паразлівалася па штучных прыступках і ўжо не залівае даліны; якая калісь сама вызначала сваё натуральнае ложа. Для маладых, што нарадзіліся пасля згаданай праўкі ў прыродзе, Дняпро здаецца быць бяспечным і бязгучным, як мадэль сучаснага жыцця...

# 18

Дзесьці пасля трэцяга адрэзка „Дзядоўскага турнэ” пачаў сніцца Анатоль Сыс. Першы раз ён *з’явіўся* ў маёй роднай хаце, дзе разам з ніўцамі мы спраўлялі памінкі па нейкім маладым пакойніку, які згарэў ад алкаголю. Сярод гасцей было шмат падлеткаў і дзяцей. У сне Анатоль заўзята адганяў іх ад стала ды застаўляў іх выпіць свой лячэбны кактэйль, які сам па сабе ўяўляў каровінае малако змяшанае з чалавечай мачой. З прычыны нестандартных пахаў нашай народнай медыцыны мне хацелася як найхутчэй забыцца пра сон. Без поспеху. Паэт з’яўляўся ў сне і паўтараў свой дзівосны рытуал з лячэбным кактэйлем, які, нягледзячы на свой састаў, успрымаўся як паратунак. Праўда, у маёй галаве запамяталася адна таксічная карціна з Гарошкава, яе немагчыма было забыць. Калі шэсць гадоў таму, у спякотны жнівеньскі будзень, разам з сябрамі мы спыніліся ля хаты паэта, нас акружылі падвыпіўшыя падлеткі. Дванаццаці-пятнаццацігадовыя хлапчукі ўсе як адзін заўзята смалілі папяросы. Маладзёны, хоць

самі па сабе лагодныя, перакідваліся вульгарным расейскім матам без толку і патрэбы. У агульнасці адчуваліся вяласць немач і прыгнёт. Эфект мацаваў ядавіты пах свінюшніка, які далятаў з калгаса „Савецкая Беларусь".



У адным інтэрв'ю Анатоль Сыс выказаўся на тэму асабістай алкагольнай праблемы. У апошняй бядзе паэт найбольш вінаваціў самога сябе. Праўда, ён спасылаўся на генетычныя схільнасці нацыі, якая пакутуе ад апошняй пошасці. У месцы, дзе нарадзіўся і вырастаў, усе мужчыны, без розніцы на ўзрост і месца ў грамадстве, любілі заглянуць у чарку. Звычка не асуджалася як хвароба, наадварот — яна прыдавала мужчынскаму полу баявітасці. Пасля чарнобыльскай катастрофы алкаголь пачалі прымяняць як лякарства ад радыяцыі. Праблему ігнаравалі датуль, пакуль у залежнасць не трапілі жанчыны. На іхніх жа ж плячах заўсёды спачывала адказнасць за выхаванне дзяцей і дом. Сам Анатоль Сыс у вобразе маці бачыў бясспрэчны і выратавальны ідэал. Ягоны культ маці і жанчыны межаваў з культам багародзічных ікон. Невыпадкова іх паважаюць і славяць у Беларусі як нідзе ў свеце...

Але не самое прызнанне ў алкагольнай хваробе заставіла нармальна думаць пра паэта. У яго

словах адчуваліся вялікі боль і крыўда да грамадскасці. Беларусы не ў змозе дапамагаць сабе ў бядзе. Раней чым працягнуць руку патанаючаму, яны асудзяць яго ў кожным злачынстве, каб у рэшце рэшт пакінуць няшчаснага аднаго. Невыпадкова пра такіх у народзе гавораць: яго адна магіла выпрастае!

Наша Падляшша падобнае як кропля вады ў алкагольным няшчасці. Як добра памятаю, у маёй вёсцы пілі ўсе мужчыны. А пра тых, хто адмаўляўся, гаварылі: пэўна хворы ён або сышчык.



*Я думаў,*
*вершы мае відушчыя,*
*аж пакуль не аслепнуў сам*
*ад маланкі, самім жа пушчанай,*
*я гарэў, як бязбожны храм,*
*сам сабе я ў ім здаўся богам,*
*адпускаў сам сабе грахі —*
*грызла ганак, вяла дарога*
*зноў на д’яблавыя кругі,*
*ад яго я вяртаўся ў поўсці*
*і калі цалаваў свой крыж,*
*ён адбіткам жахлівым помсціў,*
*бы люстэрка ці д’яблаў віж,*
*і тады я складаў малітву,*
*можа ў соты свой самасуд,*

*той малітвай, нібыта брытвай,*
*сашкрабаў у адчаі бруд,*
*і ў адчаі я рэзаў вочы,*
*і жахаўся крыві сваёй,*
*і жагнаўся — набожна, тройчы, —*
*і агідны жывёльны лой*
*з гострай брытвы маёй малітвы,*
*быццам гной, патыхаў маной.*
*(А. С. — „Перад Богам”)*

* * *

Падобны таксічны пах панаваў у Мінску вакол асобы Анатоля Сыса напрыканцы ягонага жыцця. Яго алкагольную залежнасць адны ўспрымалі з жахам, іншыя з задавальненнем. Ад паэта ўцякалі як ад пошаснага колішнія сябры і паплечнікі, у тым ліку заслужаныя літаратары і мастакі Беларусі. У бок Сыса, быццам для собскага апраўдання, чуліся адно словы асуджэння. Іншых абурала падтрымка прыватнага бізнесоўца, які напрыканцы жыцця прызначыў паэту невялікую стыпендыю.

— Як гэта? — гаварылі „сябры”. — Сорам кідаць грошы ў балота! Не лепш падтрымаць маладых і перспектыўных?

Вядома, алкагольныя сенсацыі як сарамлівы сон публічна не асвятляліся, быццам яны не існавалі ў дзённым жыцці.

Да таго ўсё, што сталася напрыканцы жыцця Анатоля Сыса, было „ўбачанае" і апісанае ім самім яшчэ далёка да фізічнага заняпаду і алкагольнай залежнасці. Анатоль, як сцвярджаюць яго блізкія сябры, пачаў заглядаць у чарку ў час творчага крызісу, калі яму было за трыццаць. Ніхто з блізкіх сяброў не падаў яму прыкрай і адначасова лячэбнай чаркі з лякуючым кактэйлем.

*Я пакінуў свой храм смярдзючы,*
*азірнуўся на купалы,*
*а святыя ў маіх анучах*
*неслі кроў маю на сталы,*
*а я, голы, як здань бяскроўны,*
*у чыесці ступаў сляды,*
*перад Богам жывёле роўны,*
*нёс грахі свае на клады,*
*і глыбела за мной сцяжына,*
*і ступала ў мае сляды*
*маці грэшных усіх — Жанчына —*
*з поўнай чарай жывой вады.*
*(А. С. — „Перад Богам")*

Канец

